Пра чалавека з «Пагоняй» у сэрцы чытайце на 3-й стар.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 51 (4406)

2 ліпеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар.*
*Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы.*
*Тэл. (8 017) 328 68 71*

# З Днём Рэспублікі!



Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.



БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, спецыяльна для «Народнай Волі»

## Каб па-беларуску прамаўляў не толькі Зубр

На закрыцці II Еўрапейскіх гульняў на стадыёне "Дынама" ў Мінску перад гледачамі паўстаў створаны пры дапамозе сучасных тэхналогій велічны вобраз Зубра, які вяшчаў па-беларуску. Прагучалі правільныя словы пра тое, што варта памятаць сваю гісторыю, што без мінуўшчыны няма будучыні.

Адкрыццё гэтых спаборніцтваў таксама было адзначана нацыянальнымі элементамі: ажылі вобразы часоў Полацкай дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага. Былі рыцары з "Пагоняй" на сцягах, быў Леў Сапега са Статутам ВКЛ, гучалі магутныя радкі Купалы, Багдановіча, Быкава…

Але з рэальных выступоўцаў бліснуў беларускай мовай толькі… прэзідэнт Еўрапейскіх алімпійскіх камітэтаў славенец Янез Качыянчыч. Чым сарваў шквал воплескаў.

Вядома ж, гэта плюс, што падчас афіцыйных урачыстасцяў сталі даваць болей месца нацыянальнай гісторыі ды культуры не ў саўковай, а ў паўнавартаснай трактоўцы. Але тое дазваляецца толькі строга паводле сцэнарыя, у зацверджаных высокім начальствам межах.

Разам з тым згадайма, як на пачатку вясны афіцыйны кіраўнік публічна зладзіў халодны душ арганізатарам Дня Волі, што хацелі правесці імпрэзу на тым самым "Дынама". У выніку ім было адмоўлена ў самых зручных пляцоўках, святкаванне скамечылі.

Атрымліваецца, што патрыятычныя прамовы на прэстыжных арэнах дазволена трымаць толькі персанажам кшталту віртуальнага Зубра паводле ўзгодненага наперсе канона. А вось прадстаўнікам нацыянальна свядомай публікі зноў і зноў паказваюць: ваша месца на задворках.

Праўда, апошнімі гадамі наверсе нібыта намецілася палітыка так званай мяккай беларусізацыі. Але ідзе яна квола і з адкатамі. Беларускае кіраўніцтва відавочна прабавецца цвяліць Маскву.

Зрэшты, прычына не толькі ў гэтым. Свядомыя грамадзяне, адрозна ад віртуальнага Зубра, якога лёгка адключыць у патрэбны момант, у прынцыпе мулююць аўтарытарнай уладзе. Бо яны хочуць жыць у болей сучаснай, сапраўды еўрапейскай, дэмакратычнай краіне. І цярэбяць уладу, патрабуюць змен. А сапраўдных змен кіроўная вярхушка не хоча.

Таму і кволая тая беларусізацыя, што да яе баяцца падключаць актыўную частку грамадства, патрыётаў, настроеных на пабудову іншай Беларусі. Абмяжоўваюцца зборышчамі тымі, хто адбывае нумар у вышыванках як актывісты праўладнай арганізацыі.

Між тым абнародаваныя нядаўна вынікі сацыялагічнага апытання, зладжанага Даследчыцкім цэнтрам ІПМ, паказалі, што ў вачах маладзейшых каштоўнасць беларускай мовы зніжаецца. Калі сярод людзей старэйшых за 61 год 93,7% мяркуюць, што беларуская мова – найважнейшая частка нашай культуры і мусіць захавацца, то сярод рэспандэнтаў ва ўзросце 18–29 гадоў такіх толькі 81,7%, між тым як 18,3% мяркуюць, што гэта "паміраючая мова і мусіць знікнуць".

Сярод маладзейшых меншая доля тых, хто хацеў бы, каб іх дзеці размаўлялі па-беларуску таксама вольна, як па-руску.

Можна колькі заўгодна дакараць маладых за несвядомасць. Але ж яны прагматыкі і бачаць, што мова тытульнай нацыі дэ-факта апынулася ў маргінальнай нішы. Нашто тлуміць сабе галаву лішнімі ведамі, зубрыць лексіку ды канчаткі, калі гэта не дае пераваг у кар'еры, зарobку?

Наадварот, за шчырую беларускасць можна займець непрыемнасці, бо ў вачах шэрагу начальнікаў гэта дасюль прыкмета апазіцыйнасці.

На добры лад мусіць быць перайначана з акцэнтам на беларускасць – і ў сэнсе мовы, і ў сэнсе зместу – уся сістэма адукацыі. Калі шмат гадоў ішла русіфікацыя, то трэба хісnуць ківач у іншы бок.

Гаворка, вядома, не пра гвалтоўныя захады і не пра тое, каб пасадзіць рускіх на чамаданы. Гаворка пра тое, што носьбіты беларускай мовы мусяць адчуць так званую станоўчую дыскрымінацыю: іх варта заахвочваць. Напрыклад, даваць надбаўкі за выкладанне па-беларуску. І гэта мусіць быць толькі адным з элементаў цэлай сістэмы захадаў.

Ну і, нарэшце, прыклад варта падаваць з самага верху. Калі на пачатку 1990-х па-беларуску прамаўляў старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, то і вертыкаль хуценька падхапіла моду. Гэты было прэстыжна. І аказалася, дарэчы, што практычна ўсе шышкі, якіх савецкае жыццё прызвычаіла да "великого и могучего", добра памятаюць матчыну мову.

І сёння, калі нашай незалежнасці пагражае "паглыбленая інтэграцыя" паводле сцэнарыя Масквы, па-беларуску мусіць прамаўляць не толькі віртуальны Зубр. Беларусізацыя павінна быць не мяккай, а цвёрдай.

ЧУЛІ?

## Знізілі пошліны

Беларусь з учарашняга дня знізіла экспартныя пошліны на нафту і нафтапрадукты, якія вывозяцца за межы мытнай тэрыторыі Еўразійскага эканамічнага саюза.

Раней стаўкі вывазных мытных пошлін адносна сырой нафты і асобных катэгорый тавараў, выпрацаваных з нафты, змяніліся 1 чэрвеня. Тады яны былі павышаны.

ЗДАРЭННІ

## Што пакажа расследаванне?

На Гомельскім хімічным заводзе загарэлася сера, пацярпелі двое рабочых.

Здарэнне адбылося ў цэху сернай кіслаты. Узгаранне пачалося ў момант, калі быў адчынены выгрузачны люк. Пацярпелі грузчыкі, аднаму з іх 54 гады, другому – 61.

Як паведаміла ўчора прэс-служба прадпрыемства, цяпер рабочыя знаходзяцца ў бальніцы. Праводзіцца расследаванне.

ПРАГНОЗЫ

## Чаму ўмацоўваецца беларускі рубель і ў якой валюце зараз лепш захоўваць зберажэнні

Беларускі рубель ужо шосты месяц запар паказвае ўмацаванне і да еўра, і да долара. Пры гэтым за чэрвень курс амерыканскай валюты абваліўся адразу на 0,0556 рубля (мінус 2,65 працэнта). Гэта амаль столькі ж, колькі за папярэднія пяць месяцаў. У той жа час курс еўра знізіўся на 0,0133 рубля (мінус 0,57 працэнта).

**– Калі ў мінулым месяцы еўра і долар знізіліся да беларускага рубля, то расійскі рубель падаражэў на 1 працэнт, – кажа Вадзім Іосуб. – Пры гэтым кошт валютнага кошыка знізіўся на 0,4 працэнта. І гэта сведчыць пра тое, што рубель умацоўваецца, а прапанова валюты па-ранейшаму перавышае попыт на яе з боку фізічных асоб.**

**– Долар істотна падае, але расійскі рубель расце…**

– Так адбываецца, бо на ўнутраныя фактары накладваюцца дастаткова высокая валацільнасць валют на знешніх рынках.

Адным словам, тыя фактары, што долар у свеце абваліўся, а расійскі рубель вырас, і прывялі да таго, што ўмацаваўся беларускі рубель. А расійская валюта вырасла ў асноўным за кошт камфортнай цаны на нафту, высокага попыту замежных інвестараў на расійскія дзяржаўныя аблігацыі і з-за таго, што размовы аб новых санкцыях у дачыненні да Расіі так і засталіся размовамі. Ніхто пакуль гэтыя санкцыі рэальна не ўводзіць.

**– Што чакае беларускі рубель у бліжэйшай будучыні?**

– Мяркую, тая сітуацыя, што была ў чэрвені, захаваецца і ў гэтым месяцы. У выніку напрыканцы ліпеня долар можа аказацца ніжэй за 2 рублі, а еўра знізіцца больш сціпла – да 2,31 рубля. Расійская валюта можа вырасці да 3,27 рубля за 100 расійскіх.

**– Атрымліваецца, што зараз больш выгадна трымаць грошы на рублёвых дэпазітах?**

– На гэты момант так, але, калі ваш дэпазіт не адклікаецца і пакладзены на тэрмін не менш за 2 гады, то будзеце мець большыя працэнты. Думаю, ніхто не возьме на сябе смеласць прагназаваць, што будзе з нашай валютай праз два гады.

Таму, нягледзячы на тое, што сёння дэпазіты ў беларускіх рублях больш выгадныя, я нікому не рэкамендаваў бы тэрмінова прадаваць валюту і рабіць рублёвы ўклад. Гэта рызыкоўна. Разумна было б палову зберажэнняў захоўваць на рублёвым дэпазіце, а другую палову падзяліць паміж доларам і еўра. Такім чынам ваш прыбытак, можа быць, і не будзе максімальны, але пры гэтым вы зможаце падстрахавацца на выпадак, калі рубель пачне абвальвацца.

**Алесь СІВЫ.**

ЛІЧБЫ

## Пад пераследам…

За першыя шэсць месяцаў гэтага года праваабаронцы зафіксавалі 260 выпадкаў адвольных затрыманняў, складання пратаколаў і іншых інцыдэнтаў (напрыклад, затрыманняў на мяжы і папярэджанняў).

Агульная колькасць судоў па адміністрацыйных справах за гэты час – 216. 88 працэнтаў судоў закончыліся вынясеннем вялікіх штрафаў. Агульная сума, якую атрымалі актывісты за паўгода, склала больш за 120.000 рублёў (каля 58 тысяч долараў).

Пры гэтым працэнт арыштаў даволі нізкі – усяго 1,9 працэнта.

Калі разглядаць артыкулы Адміністрацыйнага кодэкса, па якіх судзілі актывістаў у першай палове 2019 года, то 45 працэнтаў праходзілі па артыкуле 23.34 (арганізацыя ці ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве).

**Віктар ШПАК.**

СКАНДАЛ

## Намеснік старшыні Партыі БНФ Аляксандр Стральцоў у знак пратэсту супраць прысутнасці Рыгора Кастусёва на гей-парадзе ў Вільнюсе пакінуў партыйныя шэрагі

Пайсці на такі прынцыповы крок А.Стральцова падштурхнула тое, што кіраўнік партыі Рыгор Кастусёў наведаў гей-парад у сталіцы суседняй дзяржавы.

*"Я сышоў таму, што лічу: удзел старшыні Партыі БНФ, незалежна ад таго, быў ён змушаны або добраахвотны, у гэтай падзеі для мяне як члена партыі недапушчальны. Партыя ўсё-такі мае кансерватыўнае аблічча. І ёсць супярэчнасць паміж кансерватыўным абліччам і такімі дзеяннямі"*, – распавёў палітык у каментарыі belsat.eu.

Актывістка экалагічнага руху Тацціяна Новікава апублікавала ў "Фэйсбуку" фотаздымак, на якім Рыгор Кастусёў фігуруе на фоне всёлкавых сцяжкоў падчас Балтыйскага гей-парада.

Што цікава, Рыгор Кастусёў не стаў нічога абвяргаць. Наадварот, у інтэрв'ю "Нашай Ніве" ён сказаў: *"Пабыўшы там, я пачаў лепш разумець гэтых людзей. Маё стаўленне да іх стала менш катэгарычным"*. І дадаў, што *"нічога страшнага ў гей-парадзе няма"*.

Ён лічыць, што беларускія ўлады *"павінны паспрыяць правядзенню такога мерапрыемства"*.

Можаце ўявіць, у Мінску адбываецца гей-парад, наперадзе лідар Партыі БНФ Рыгор Кастусёў. Не, не выпадкова Аляксандр Стральцоў вырашыў пакінуць такую партыю.

**Сяргей КУЖАЛЁЎ.**

**На фота: першы злева – Рыгор Кастусёў.**

АНОНС



## Каким он был, Виктор Купрейчик?

*(Читайте на 7-й стр.)*

СМУТАК

## Кампенсацыі не дачакаўся

*Памёр незаконна асуджаны Міхаіл Гладкі.*

Гэта той чалавек, якога ў 2003 годзе суд г.Заслаўя асудзіў да 8 гадоў калоніі строгага рэжыму за забойства, якога ён не здзяйсняў.

Міхаіл адседзеў 5 гадоў у калоніі і 1 год і 7 месяцаў правёў на папраўчых працах, паведамляе spring96.org. А ў 2012 годзе прысуд у адносінах да Гладкага быў адменены, крымінальная справа спынена ў сувязі з адсутнасцю ў яго дзеянняў складу злачынства.

Але Міхаіл Гладкі так і не дачакаўся аднаўлення справядлівасці ў адносінах да сябе з боку дзяржавы і выплаты кампенсацыі за незаконнае асуджэнне.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ПАД ГРАДУСАМ

## Пахаладае

*У Беларусь сёння прыйдзе пахаладанне.*

Як паведамляюць сіноптыкі, 2 ліпеня гарачыня спадзе, а ў сярэдзіне тыдня на тэрыторыю краіны пачне паступаць больш халоднае паветра з поўначы Еўропы, і тэмпературны фон панізіцца.

Народная Воля http://www.nv-online.info
2 ЛІПЕНЯ 2019 г.

КАНФЛІКТ

# Як дачнік настойвае на сваёй пазіцыі…

*Уласнік лецішча Аляксей Дзяшко (на здымку) падаў іск у суд на садовае таварыства, сябрам якога з'яўляецца, не пагадзіўшыся з рашэннем агульнага сходу адносна ўплаты членскіх унёскаў. Дайшоў да Вярхоўнага суда, рашэнне было прынята не на яго карысць, тым не менш дачнік перакананы ў сваёй праваце…*

## Сутнасць праблемы

Сябрам садовага таварыства «Сасновая балка – 1», што ў Гродзенскім раёне, Дзяшко з'яўляецца больш за 20 гадоў. У яго ва ўласнасці 13,3 соткі зямлі, пабудаваны садовы домік.



Паводле рашэння агульнага сходу садовага таварыства, у 2016 годзе членскія ўнёскі былі аднолькавыя для ўсіх сябраў таварыства незалежна ад памераў надзелу. Так, дарэчы, запісана і ва Указе прэзідэнта «Аб мерах па ўпарадкаванні дзейнасці садовых таварыстваў» ад 28 студзеня 2008 года.

Што тычыцца мэтавых унёскаў, якія, згодна з заканадаўствам, «*уносяцца сябрамі таварыства на падставе рашэння агульнага сходу для рэалізацыі штогадовых планаў агратэхнічных мерапрыемстваў і рамонтна-гаспадарчых работ, стварэння і капітальнага рамонту аб'ектаў агульнага карыстання, а таксама пры неабходнасці фінансавання іншых мерапрыемстваў, якія зацверджаны агульным сходам*», то тут, паводле меркавання Дзяшко, рашэнне агульнага сходу таварыства супярэчыць закону.

Памер мэтавых унёскаў на бягучыя расходы ў 2018 годзе быў вызначаны агульным сходам у залежнасці ад колькасці сотак, якія знаходзяцца ва ўласнасці члена таварыства. За кожную сотку звыш 5 сотак садовага надзелу ўласнік павінен плаціць 5 рублёў. Такім чынам уладальнік 13,3 соткі плаціць больш, чым уладальнік пяці.

Не пагаджаецца Дзяшко і з тым, што, паводле рашэння агульнага сходу, да мэтавых унёскаў былі аднесены выплаты ў фонд сацабароны, Белдзяржстрах, затраты на банкаўскія паслугі, вываз бытавых адходаў, абслугоўванне электрасетак, водаправоднай сістэмы, транспарт і сувязь, канцтавары, аплата электраэнергіі і водазабеспячэння і іншае.

Дзяшко лічыць, што ўсе гэтыя затраты павінны кампенсавацца з членскіх унёскаў. Ён цытуе пункт 54 Палажэння аб садовым таварыстве, у якім гаворыцца, што «*членскія ўнёскі выкарыстоўваюцца на аплату працы работнікаў таварыства, у тым ліку на ўзнагароджванне членаў праўлення, членаў рэвізійнай камісіі, а таксама на іншыя бягучыя расходы, звязаныя з дзейнасцю таварыства*».

Што тычыцца мэтавых унёскаў, то, паводле меркавання Аляксея, па-першае, яны павінны быць такімі ж, як і членскія, а па-другое, для прыняцця рашэння аб іх суме папярэдне павінна быць вызначана канкрэтная мэта іх расходавання, падрыхтаваны і зацверджаны рашэннем агульнага сходу план рамонтна-гаспадарчых работ. А гэтага, маўляў, выканана не было.

За тлумачэннямі Дзяшко звяртаўся ў Міністэрства эканомікі і атрымаў адказ, што там яго думку адносна таго, якія расходы варта адносіць да членскіх унёскаў, падзяляюць, але гэтым самым толькі выказваюць сваё меркаванне і не болей.

Усе свае заўвагі Дзяшко выказваў старшыні садовага таварыства, пісаў скаргу ў пракуратуру раёна, адкуль яе пераслалі ў райвыканкам, але ніякіх мер, з яго слоў, улады не прымалі. Пасля гэтага дачнік звярнуўся ў суд з іскам супраць свайго садовага таварыства.

## Суды ад раённага да Вярхоўнага іск не задаволілі

Суд першай інстанцыі, адмаўляючы Аляксею Дзяшко ў задавальненні іску, канстатаваў, што падстаў для прызнання несапраўднымі рашэнняў агульнага сходу садовага таварыства па вызначэнні памераў членскіх унёскаў няма, паколькі яны былі прыняты ўпаўнаважаным органам у адпаведнасці з яго кампетэнцыяй.

А довады Дзяшко аб тым, што ў мэтавыя ўнёскі фактычна ўключаны затраты, якія павінны аплачвацца з членскіх унёскаў, на думку суда, маюць выключна суб'ектыўны характар.

Не адпавядае дзейснаму заканадаўству, паводле меркавання суда, і довад Дзяшко адносна таго, што памеры мэтавых і членскіх унёскаў павінны быць аднолькавыя, паколькі аднолькавы памер мэтавых унёскаў пунктам 54 Палажэння не замацаваны.

Абласны суд падтрымаў высновы раённага і канстатаваў, што ўсе рашэнні, прынятыя агульным сходам садовага таварыства, уваходзяць у яго кампетэнцыю, а таму, маўляў, довады істца не маюць падстаў.

Нічога новага да ўжо вядомых рашэнняў не дадаў і Вярхоўны суд, а толькі канстатаваў, што пры разглядзе спрэчкі судом не дапушчана парушэнняў нормаў матэрыяльнага і працэсуальнага права.

## Хто мае рацыю?

Нягледзячы на рашэнні судоў усіх інстанцый, Дзяшко працягвае настойваць на сваім. Ён сцвярджае: за ўсе гады, што ён з'яўляецца членам садовага таварыства і здае ўнёскі, таварыства асабіста для яго нічога не зрабіла.

«Дарогу каля дома я рабіў сам, усталёўваў слуп для падвядзення электрычнасці сам, водаправод таксама праводзіў сам», – канстатуе Дзяшко.

Другое пытанне, якое хвалюе неабыякавага дачніка: як мэтавыя ўнёскі наогул могуць залежаць ад памеру надзелу? Атрымліваецца, што і за інтэрнэт, і за канцылярскія прылады з яго бяруць больш, чым з таго ўласніка, у якога меншы памер садовага надзелу.

«Я таксама не разумею, чаму за падачу палівачнай вады з мяне бяруць больш грошай. Ёй можна карыстацца толькі некалькі гадзін, а потым з трубы нічога не цячэ. Я бяру вады столькі ж, колькі і тыя, у каго 5 альбо 10 сотак надзелу», – здзіўляецца ўласнік лецішча.

Ён кажа, што і на астатнія патрэбы таварыства яму даводзіцца здаваць грошай больш, хаця ў далейшым усе сябры таварыства карыстаюцца тымі ці іншымі дабротамі ў аднолькавай ступені.

«Мне зразумела, што падатак на зямлю залежыць ад памеру надзелу і тут мы плацім кожны столькі, колькі налічана, – падкрэслівае спадар Дзяшко. – Але тое, што ад памеру надзелу залежыць, колькі здаваць на офісную паперу, транспартныя паслугі ці сувязь, – гэтага я не разумею».

Старшыня садовага таварыства «Сасновая балка – 1» Валерый Баннікаў сказаў «Народнай Волі», што ведае пра прэтэнзіі Дзяшко і неаднойчы з ім размаўляў на гэты конт. Ёсць рашэнні трох судовых інстанцый, і дадаць нешта новае старшыня не можа.

Сёлета, паводле рашэння сходу садовага таварыства, Дзяшко з улікам памеру свайго надзелу павінен заплаціць гадавы ўзнос у суме 121,3 рубля. Ён сцвярджае, што сутнасць не ў колькасці грошай, а ў законнасці рашэнняў, якія прымаюцца агульным сходам садовага таварыства.

Аляксей лічыць, што судовыя рашэнні пярэчаць указу прэзідэнта ад 13 ліпеня 2015 года №323, у якім, на яго думку, канкрэтна запісана, на што накіроўваюцца членскія і мэтавыя ўнёскі.

«Атрымліваецца нейкая незразумелая юрыдычная калізія: альбо прэзідэнт не мае рацыі, альбо суд, – кажа Дзяшко. – Але прэзідэнт не можа не мець рацыі, і суд таксама, паколькі ён Вярхоўны».

На тое, каб прайсці ўсе судовыя інстанцыі, дачнік затраціў больш за год, нічога не дамогся і цяпер папросту не ведае, куды звяртацца далей. А таму прапануе праз газету выказацца тым, хто мае хоць нейкае дачыненне да праблемы.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Мэр Солигорска под домашним арестом

*Мерой пресечения для председателя Солигорского райисполкома Олега Поскробко избрали домашний арест. Ему запрещено выходить из дома, принимать гостей, пользоваться интернетом и телефоном. На Окрестина в ИВС он находился только первые трое суток после задержания 17 июня.*

В Солигорске по этому поводу можно услышать разные мнения. От беззлобного, с ноткой сочувствия «все лучше, чем в камере бы парился» до слегка ироничного «решили, что скуки на этапе следствия для него достаточно».

Напомним: председателя Солигорского райисполкома задержали по подозрению в лоббировании интересов иностранной компании и получении незаконного вознаграждения в размере 2000 евро. В отношении него возбуждено уголовное дело за превышение власти или служебных полномочий. Наказание по данной статье УК – до 10 лет лишения свободы с конфискацией имущества.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

НУ І НУ!

# Дзесяць пратаколаў на дваіх

Супрацоўнікі Лідскага ДАІ склалі 10 пратаколаў за парушэнне правілаў дарожнага руху на мужа і жонку, якія кіравалі аўтамабілем у нецвярозым стане.

Паводле паведамленняў УУС Гродзенскага аблвыканкама, гісторыя пачалася з таго, што мужчына, які быў на падпітку, дазволіў жонцы, якая таксама прымала алкаголь ды яшчэ і не мела правоў на кіраванне аўтатранспартам, сесці за руль. Праехала яна няшмат, і аўтамабіль уткнуўся ў чужы агарод.

Пасля гэтага за руль сеў муж і праехаў не больш за сто метраў – аўтамабіль уехаў у бетонную агароджу прыватнага дома. Пакінуўшы машыну на месцы здарэння, яны спакойна пайшлі дахаты, куды пазней за імі прыехалі супрацоўнікі ДАІ.

У выніку разбіральніцтва на іх было складзена адразу 10 пратаколаў. Шэсць на мужа: за кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане, здзяйсненне ДТЗ, за тое, што пакінуў месца ДТЗ, за перадачу права кіравання аўтамабілем асобе ў нецвярозым стане, за перадачу права кіравання асобе, якая не мае вадзіцельскага пасведчання, і за адсутнасць тэхнічнага агляду аўтамабіля.

На жонку складзены чатыры пратаколы: за кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане, за кіраванне аўтамабілем без вадзіцельскага пасведчання, за ДТЗ і адсутнасць тэхнічнага агляду аўтамабіля.

Паводле міліцэйскай зводкі, толькі за кіраванне аўтатранспартам у нецвярозым стане сям'я лідчан атрымае ад 50 да 100 базавых велічынь штрафу.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

АКЦЫЯ

# Флэшмоб у падтрымку бадзяжных жывёл

Гродзенцы пачалі выстаўляць дзіцячыя цацкі каля гарадскіх сметніц з заклікам на лісце паперы не выкідваць хатніх жывёл. Да акцыі далучыліся больш за 300 чалавек.

Старшыня грамадскай арганізацыі «Адданае сэрца» Алена Шыманіца патлумачыла «Народнай Волі», што флэшмоб праводзіцца ў сувязі з тым, што апошнім часам на вуліцах гарадоў Беларусі вельмі шмат бадзяжных жывёл.

«Асабліва ўражваюць выпадкі, калі памірае гаспадар, а сабаку ці ката яго дзеці проста выкідваюць на вуліцу, – тлумачыць Шыманіца. – Для многіх галоўнае – прадаць кватэру, а тое, што нехта з іх бацькоў жыў у кампаніі коціка ці сабакі, – гэта іх не хвалюе».

Вельмі шмат выпадкаў, паводле слоў Шыманіцы, калі людзі, проста нагуляўшыся з хатняй жывёлінай, выкідваюць яе на вуліцу толькі таму, што ім такая забава надакучыла.

«Спадзяёмся, калі людзі пабачаць наш заклік побач з дзіцячымі цацкамі, нешта ўнутры ў многіх зашавеліцца», – з аптымізмам кажа Алена Шыманіца.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# Перебьются?

*Как известно, сегодня месячная минимальная зарплата в нашей стране – 330 рублей. И в регионах предложений трудоустроиться именно на такой заработок не скажешь, что мало. Ну ладно, можно посидеть за 330 рублей где-то в гардеробе библиотеки или на вахте во дворце культуры. И если ты уже на пенсии, тогда эти дополнительные 330 рублей неплохой довесок.*

А если тебе только 40–50 лет и до пенсии еще далеко?

Просмотрев тематические сайты с объявлениями о вакансиях на предмет трудоустройства в регионах, я обнаружила, что ***рыбокомбинат «Любань» ищет обработчика рыбы и морепродуктов, рыбовода, юрисконсульта с зарплатой, эквивалентной минимальной – 330 рублей.***

Я видела, в чем заключается работа обработчика рыбы на одном из рыбокомбинатов, – ой, не из легких занятие! На ногах всю смену не покладая рук и, можно сказать, в сырости. Рыбовод тоже далеко не вахтер по трудоемкости и сложности работы, и юрисконсультом не посадишь любого с улицы.

Или, к примеру, ***«Клецкое ЖКХ» приглашает столяра с оплатой на целых 10 рублей больше минимальной. А в Копыле ищут слесаря-сантехника, обещая ему те же 330 рублей, Стародорожский производственный участок Слуцкого сыродельного комбината на полный рабочий день ищет грузчика, за труды его готов также целую минималку платить в месяц. И у Несвижской райветстанции есть вакансия – нужен водитель с полной занятостью и зарплатой в 340 рублей. А Несвижскому РУПС нужен начальник отделения связи и тоже (не поверила своим глазам!) с оплатой его труда по гарантированному государством минимуму. Электромонтеру по ремонту и обслуживанию оборудования предлагают в Узденском ЖКХ – ура! – целых 400 рублей.***

***Солигорское РайПО заманивает бойца скота зарплатой в 350 рублей, такую же сулят там и требующемуся водителю автомобиля.***

Ясное дело, я просмотрела лишь часть объявлений с занятостью на полный рабочий день. С зарплатой в 400 рублей их еще больше. Или вот попалось на глаза объявление на сайте belmeta, что Копыльское ЖКХ ищет ремонтника с зарплатой в 190 рублей, причем не указано, что занятость человека на рабочем месте будет неполной. Выходит, что целый рабочий день, пять дней в неделю трудиться он будет. Но тогда как вообще? А закон где?

Очень сомнительно, даже откровенно невозможно при наших ценах на всё и вся, чтобы минимальная зарплата или чуть с хвостиком реально была способна обеспечить даже восстановление биологических энергозатрат организма в процессе труда у того же обработчика рыбы, грузчика, бойца скота. Я понимаю, можно как-то протянуть на эти деньги месяц-два на крупах и самой дешевой другой еде. А витамины, сыр, мясо? Обувка замены потребует, штаны сносятся. А парикмахерская, шампуни, разные там чистящие-моющие? Я уже не говорю о достойном уровне жизни как таковом, возможности содержать более-менее сносно на подобную зарплату кроме себя хотя бы одного ребенка.

А ведь есть еще такие необходимые вещи, как развитие, полноценный отдых. Предметы быта хоть самые необходимые в квартиру надо приобрести? Или по умолчанию допускается, что все эти люди с зарплатой 330 или пусть на 30–50 рублей больше как-нибудь без этих вещей, отдыха и развития перебьются, ну а ребенка, может, бабушки-дедушки поднимут, что-нибудь из пенсий своих отожмут?

Постоянная бедность корежит сознание, способствует накоплению озлобленности, которую многим, попавшим в ее петлю, какое-то время удается сдерживать, запихивать внутрь себя. Потом это, как правило, все равно аукается. Аукается по-разному. В эмоциональное и ментальное пространство общества в любом случае добавляется-течет негатив. Хочется надеяться, что в верхах есть те, кто это понимает и готов что-то предпринять помимо окриков, запретов и ограничений.

Справедливости ради надо сказать, что в последнее время количество вакансий с зарплатой, равной обещанным 500, близко к 500 и выше 500 у.е., все-таки растет, по крайней мере если судить по предложениям работодателей, помещенным на тематических сайтах. В том же Солигорске, если брать последние дни, можно найти объявления о вакансиях для квалифицированных работников, начиная от главного инженера, тренера, инженеров и заканчивая водителями, бетонщиком-облицовщиком, которым работодатель предлагает зарплату 1000 рублей и выше, попадаются вакансии с зарплатой 1500–1700 рублей. Есть несколько вакансий с зарплатой от 800–900 рублей, что в наших условиях немалая часть людей считает неплохим уровнем. Конечно, с 330–400-рублевыми заработками не сравнить.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ПИКИРОВКА

## Сергей Черечень министру обороны Андрею Равкову:

# «Служение своей стране – это не только автомат и берцы»

*Как известно, уже осенью могут быть изменены правила призыва в белорусскую армию. Отсрочка для получения образования будет предоставляться только один раз. Тем, кто намерен необоснованно избежать службы в армии, могут ограничить выезд за границу. Без армейской школы не будут принимать на госслужбу. «Сегодня карьера государственного служащего в нашей стране никак не связана с исполнением им самим воинского долга», – сказано в обосновании законопроекта за подписью министра обороны Андрея Равкова.*




«И это абсолютно нормальная ситуация! – *комментирует нашумевший законопроект председатель партии БСДГ* **Сергей Черечень**. – Умение здраво оценивать ситуацию и готовность самостоятельно принимать решения не зависят от того, хорошо ли ты полтора года выполнял из-под палки чьи-то команды. Или система считает именно такой формат жизни госслужащих обязательным на всех этапах карьерного роста?

Я понимаю, что сейчас в армии недобор. И в обществе наблюдается тенденция к интеллектуальному росту. Жаждущих потерять 18 месяцев собственной жизни не так уж и много. Но ведь это время диктует такое отношение – и ни один министр не в состоянии остановить время или повлиять на то, что сами люди считают правильным.

Нам давно пора перейти к исключительно контрактной службе – пусть в армию идут те, кто действительно этого хочет. Но у нас по старинке считают, что куча солдат на линии огня – это беспроигрышный вариант. Ведь у противника когда-нибудь закончатся патроны, да? Но сейчас не Вторая мировая война и одна винтовка на троих. За полтора года можно научить в нужном темпе красить забор или разъяснить, как не натереть мозоли при марш-броске. Но нельзя научить профессиональному обращению с современным оружием.

Армия по контракту существует в США, Германии, Франции, Польше и еще в десятках стран. С учетом нахождения нашего государства между двумя точками напряжения в виде Российской Федерации и НАТО, наша основная задача – быть готовыми к недопущению проявления агрессии и кратковременному сдерживанию первого удара. После чего без помощи соседних стран мы в любом случае не будем способны противостоять более многочисленной и лучше экипированной армии противника.

Контрактная армия – это профессионализм и технологическое преимущество одной человеческой единицы. При реальной боевой обстановке – меньший процент смертности личного состава. При переходе на контракт и уменьшении численности армии в 3 раза мы порядка 40.000 человек вовлекаем в экономику Беларуси. А это молодые и активные граждане, которые могут принести реальную пользу нашей стране.

Сейчас военные – это залог существующей «стабильности» в действующей системе. Но не надо и перегибать палку. Кадровый голод виден на всех уровнях госаппарата. Давайте подумаем о развитии страны и перспективах. Когда способности человека внести свой вклад в развитие государства начинают оцениваться исполнением «повинности» – это уже потеря всякого здравого смысла. Служение своей стране – это не только автомат и берцы.

И напоследок задачка для министра обороны Равкова. На госслужбу претендуют двое. У первого за плечами 9 классов средней школы и служба в армии, а у второго – достойное образование или опыт работы, но в армии он не служил. Кто из этих двоих способен принести больше пользы на госслужбе?»

**Галина РУТ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
2 ЛІПЕНЯ 2019 г.

ЗА ЧАШЕЧКОЙ КОФЕ С МАРИНОЙ КОКТЫШ

# Дмитрий КУЧУК: «Ушел из дома с голым торсом…»



*Он в прямом смысле делает деньги из мусора. Пять-семь лет подряд декларировал годовой доход, превышающий 100.000 долларов. Выступает против строительства мусоросжигательного завода и БелАЭС. Выбрасывает пластиковые бутылки в специальные контейнеры. Хочет быть президентом. Многие считают, что он – главный, хотя на самом деле **Дмитрий Кучук** – первый заместитель председателя Белорусской партии «Зеленые».*

### ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

*Дмитрий Кучук. 45 лет.*

*Родился в Минске. Окончил Минское училище олимпийского резерва, Белорусский политехнический институт по специальности «инженер-экономист».*

*Участник юношеских сборных СССР и БССР по академической гребле.*

*Работал в Минске слесарем на заводе отопительного оборудования, мастером на инструментальном заводе им.Гастелло.*

*С 1993-го – индивидуальный предприниматель.*

*С 2007-го – директор компании «Мусоросортировочная станция Западная». С 2013-го – владелец и генеральный директор ОАО «МС Западная».*

## «Стройку на любом этапе можно остановить…»

**– Дмитрий Леонидович, в этом году белорусским «зеленым» 25 лет, но гордиться особо нечем. Можно сказать, лишь в последние годы партия немного начала интересоваться политикой…**

– В Беларуси было три партии «Зеленые». Две появились в Гомеле после аварии на ЧАЭС, и одна – в Минске. Столичная партия имела около 17 депутатов горсовета и занималась больше городской политикой.

Мы не вели активной деятельности. Хотя именно партия «Зеленые» в свое время выдвинула Александра Милинкевича на Конгресс демократических сил.

Лет десять назад столичную партию закрыли, а ее бывший председатель Фридман эмигрировал в Канаду. Более-менее функционировала лишь гомельская организация Олега Громыко. Он решил, что партии нужны лидеры, новые лица. Позже председателем стал Олег Новиков. В 2010 году мы выставили своего кандидата в президенты – Юрия Глушакова, бывшего депутата Гомельского горсовета, а потом убедили его снять свою кандидатуру. Журналисты тогда написали, что мы самая честная партия.

**– Вы тогда не собрали подписи, верно?**

– Собрали около 17.000. Тогда люди сплотились, в партию пришла нынешний председатель Анастасия Дорофеева, я. Мы начали заниматься партийным строительством, налаживать контакты с европейскими «зелеными». Сегодня нас признает международное сообщество.

**– Но в Беларуси влияние «зеленых» слабое…**

– Я это понимаю.

На выборах в 2015 году от нас шел кандидат Юрий Шульган. Он произвел не очень хорошее впечатление на представителей негосударственных общественных объединений. Но наша кампания изначально была направлена на дискредитацию выборов, мы хотели показать, что их нет.

Сейчас партия действительно «позеленела» – с точки зрения идеологии. Однако мне хотелось бы, чтобы мы все-таки меньше были вовлечены в какие-то образовательные и общественные проекты.

**– Одна из целей «зеленых» в мире – перенос экологического стиля в том числе и на политическую сферу. Поясните, что это такое.**

– Есть ценности, которые мы отстаиваем: экологическая мудрость. ненасилие, базовая демократия. Актуальные для нас темы – зеленая экономика, мусор, антиядерная политика. К сожалению, не в каждой белорусской партии сегодня есть понимание, какую угрозу несет Беларуси АЭС. Некоторые стараются по возможности дистанцироваться от этой темы.

**– Кто именно?**

– Например, «Справедливый мир».

**– Ваша партия организовала пикеты и митинги против строительства АЭС в Островце. Но речь уже идет о датах поставки ядерного топлива…**

– Я считаю, что на любом этапе стройку можно остановить. Давайте проанализируем информацию, которая прозвучала на последних слушаниях по радиоактивным отходам. Вопросов много! Даже в проекте нет площадки для временного хранения радиоактивных отходов. Не подписано с Россией соглашение об утилизации. Не ясно, куда продавать энергию. Сейчас люди смотрят нашумевший сериал «Чернобыль» и меняют свои взгляды на Островецкую АЭС.

И я уверен: когда демократы придут к власти, то станцию точно будут останавливать.

**– Насмешили: когда это еще будет!**

– Ну, если еще два месяца такая жара продержится, «зеленые» точно придут к власти. *(Смеется.)*

## «Климат не может ждать!»

**– Вы говорили, что оппозиции давно надо поменять предвыборную риторику: *«Старая дискуссия о едином кандидате уже не привлекает людей, нужно искать какие-то новые фишки»*. Чем планируете завоевать внимание публики?**

– Мы запускаем кампанию «Климат не может ждать!».

**– Даже не знаю, что сказать…**

– Смотрите: в Германии «Зеленые» – вторая по влиятельности партия, обгоняет даже социал-демократов. В Швеции «зеленые» набирают много голосов и попадают в парламент. И во всех странах они во время избирательной кампании говорят о климате. Климатические изменения очень влияют на настроение в обществе.

**– Они вообще на всё влияют: на продажу кондиционеров, на самочувствие, на урожай…**

– Изменение климата – тема глобального, планетарного масштаба. Очень важно не допустить, чтобы температура на Земле выросла на 1,5–2 градуса.

**– В одном из последних докладов ООН говорится: *«Климатические изменения угрожают свести на нет 50 лет прогресса в развитии, здравоохранении и в борьбе с нищетой. У человечества осталось всего 12 лет на предотвращение угрозы климатической катастрофы. В противном случае нас ожидает жара, гибель растений и животных, рост уровня Мирового океана и парниковый эффект»*. Но насколько важна эта тема для белорусов?**

– Не знаю. Нам самим хотелось бы посмотреть. Всех сейчас волнует жара…

**– Выборы будут осенью, про зной к тому времени забудут. А если серьезно, мне кажется, не все понимают, что может сделать каждый из нас для предотвращения климатической катастрофы…**



С «Погоней» в сердце.

– Автомобильные выхлопы и выбросы предприятий – в городе мы всем этим дышим. Бытовые отходы – они гниют, вырабатывается метан, идет выброс в атмосферу, меняется озоновый слой. А можно разделять мусор, в субботу-воскресенье отказаться от автомобиля…

**– Вы отказываетесь?**

– Да, часто езжу на метро, автобусах. Иногда это проще, чем искать парковку в центре Минска. А сейчас к тому же меняется автобусный парк, общественный транспорт станет комфортнее.

Мне кажется, важно всем вместе не допустить повышения температуры на планете. И это нужно делать сейчас. Поэтому наша компания так и называется: «Климат не может ждать».

Тема пластика в океане – об этом сейчас говорят все. «Зеленые» набирают вес в Европе.

**– Почему в Беларуси это не так?**

– Какое-то время назад Академия наук проводила исследование, которое показало, что самая популярная партия в нашей стране – «Зеленые». Правда, кто они – никто толком ответить не мог, не говоря уже о том, чтобы назвать фамилии лидеров…

Но по своему опыту могу сказать, что люди действительно благожелательно относятся к нам, наш бренд не является негативным. «Зеленые» за чистый океан? Конечно, давайте подпишемся за вас…»

**– Собственно, а почему бы и нет? Ультиматумов власти вы не выставляете. В Википедии вообще написано, что БПЗ – одна из немногих партий, определяемых как нейтральная по отношению к режиму Лукашенко…**

– Думаю, в ближайшие годы мы точно станем настоящей оппозиционной структурой.

## «Партия должна заниматься политикой»

**– Уже определились, сколько кандидатов от вас пойдут в депутаты?**

– У нас пока нет согласованного решения, участвовать в выборах или нет.

**– То есть?**

– Я в партии, наверное, единственный человек, который всегда считал, что нужно участвовать в любой избирательной кампании. Но у нас есть те, кто не понимает, зачем идти на выборы, если победу все равно украдут. Поэтому мы пока и не определились…

Когда будет объявлена дата выборов – посмотрим. Мне трудно прогнозировать, каким будет решение руководящих органов…

**– Многие считают, что именно вы руководите партией.**

– Анастасия Дорофеева, может, чуть менее публична. И журналисты часто забывают, что я первый заместитель. В конце года у нас съезд…

**– Будете баллотироваться?**

– Не уверен, что буду рваться в руководящие органы. Мне хочется быть лидером именно политической партии, чтобы от меня действительно что-то зависело. Это мечта.

Что касается выборов, то редко кто на съездах политических партий вникает в речи кандидатов. Как правило, многое решается заранее, кулуарно. Я не сторонник такого прихода к власти. Я за дебаты между лидерами, за конкретную программу развития.

Нашу партию нужно раскручивать, поднимать на более высокую ступень узнаваемости. Нужно развивать региональные структуры. Заниматься политикой. Добиваться, чтобы появилось больше «зеленых» политиков – именно политиков, а не общественных активистов. Надо, чтобы люди четко понимали, за что выступают «Зеленые».

Выберет ли такую стратегию большинство членов нашей партии – по сути, не столь важно. Я считаю, у каждого политика свое время.

**– Ваше время пришло?**

– Я уже много чего знаю, есть к чему стремиться!

Наверное, еще нужен какой-то личный успех. Успеть сделать что-то значительное до того, как стать большим политиком. Например, построить мусороперерабатывающий завод.

## «Деньги не всё решают…»

**– А как вас вообще занесло в политику, в оппозицию? У вас могла быть отличная спортивная карьера. И на госслужбе достигли бы высот…**

– Не очень простая история…

Я был в сборной Беларуси по академической гребле. Мы готовились к чемпионату мира, у меня был напарник. Нужно было сдавать экзамены, я стал уделять время учебе. Напарник обиделся – страдали результаты. Он пересел к новому партнеру. Они выиграли несколько соревнований подряд. Это было удивительно! А мне до победы не хватило полторы секунды…

У меня с тех пор правило: как бы ни было трудно, начатое дело нужно довести до конца, не сдаваться на полпути.

Я поступил в институт, в 19 лет женился. Супруга была капитаном сборной Беларуси по волейболу. У нас родилась дочка. Через три месяца после родов жена вернулась в сборную, начала тренироваться, ей предложили контракт во Франции. Она уехала.

**– А дочь?**

– На два года осталась со мной. Это было сложное время: бизнес, много разъездов. И ребенок на руках…

**– Няня, бабушка?**

– Бабушка, конечно, помогала, но в садик мы пошли рано.

Через два года жена захотела остаться во Франции. Я был против.

Я тогда много зарабатывал, был одним из самых успешных предпринимателей Фрунзенского района Минска, с самым большим доходом. Начало 1990-х годов, расцвет бизнеса, не было особой конкуренции. А жена сказала, что хочет жить в Европе. Я настаивал, что Беларусь – это центр Европы…

**– Сейчас не жалеете?**

– Наверное, если бы тогда был чуть умнее… Не знаю…

**– Вы расстались?**

– Развод дался мне тяжело. Жена не выставляла претензий по алиментам. Оставил семье квартиру – мы строили кооператив.

**– А ребенок?**

– Первое время не хотел подписывать разрешение на выезд дочери. Мы ругались, помню, в ссоре жена разорвала мне рубашку и выбросила вещи в окно. Ушел из дома с голым торсом…

Вся семья непросто переживала ту ситуацию. Бабушка убеждала меня, что ребенок должен жить с матерью. Я и сам понимал, что в Европе возможностей больше...

Сейчас дочери 24 года, она проходит практику в Интерполе, год жила в Америке, получила отличное образование, будет работать в Париже. Мы постоянно общаемся.

Пару лет назад произошел важный для меня момент. Французский отец предложил оставить дочери свою недвижимость, если напишу отказ от родительских прав. Для меня эта ситуация была большим стрессом. Я сказал, что не напишу, и дочка поддержала меня. Но теперь точно знаю, что деньги не всё решают. Позиция дочери стала для меня хорошим стимулом, поддержкой.

**– А как вы пережили развод? Алкоголь, романы, работа?**

– Лет до 30 я действительно хорошо погулял. А потом с головой ушел в работу. Пытался восстановить семью – не вышло. У меня были романы, знакомства, но ничего серьезного не случилось.

Меня спас бизнес. У меня были проекты с некоторыми директорами предприятий еще старой советской школы. Они научили меня многим нюансам управления коллективом, контролю над сверхэмоциями. Я не ушел в алкоголь, а понял, что стрессы нужно снимать через спорт, физические нагрузки. Я и сейчас не злоупотребляю спиртным. На следующий день обычно сильно болит голова, и я не хочу переживать это чувство *(улыбается)*.

Я всегда много читал. И не понимал, почему белорусская оппозиция не может добиться каких-то конкретных результатов в своей деятельности. Мне казалось, вот сейчас приду – и у меня все получится.

**– Наверное, так думают и те, кто идет в министры. А потом становятся жертвами беспощадной системы…**

– Я собрал 1000 подписей и пошел в депутаты. Меня не зарегистрировали. Но я пришел в Белорусскую экологическую партию «Зеленые», которую потом через два года закрыли. И я предложил объединить две оставшиеся партии «зеленых».

Сейчас у меня есть две цели: хочу баллотироваться в президенты и стать председателем партии. Многое, конечно, упирается в финансы.

**– Вы обеспеченный человек – это видно по декларациям о доходах.**

– На протяжении лет пяти, а то и больше, мой стабильный годовой доход составлял около 100 тысяч долларов.

**– Вы покупали недвижимость, банки, яхты?**

– Нет, вкладывал средства в развитие бизнеса. Я не занимаюсь накоплениями. Считаю, что деньги должны работать. Живу нормально, к роскоши и новым машинам не стремлюсь. Практикую рациональное потребление. Единственное, люблю бывать в кафе.

**– Наверное, уже могли владеть собственным рестораном…**

– У меня есть кое-какие задумки…

В последние годы мой бизнес немного остановился в развитии. Очень жду изменений в законодательстве, которое даст толчок развитию мусорного бизнеса. Закон вот-вот должен выйти. Он позволит выйти на совершенно новый уровень развития, мы сможем делать проекты глобального масштаба, контролировать 20–30 процентов вывоза мусора, привлекать инвестиции…

**– В Минске скоро построят мусоросжигательный завод. Для вас это хорошая новость или плохая?**

– Плохая. Есть в этом проекте как экологические, так и экономические нюансы.

В столице образуется миллион триста тонн отходов в год. Ожидается, что завод будет сжигать 500 тысяч тонн мусора в год. Как видите, это не очень большие объемы. Можно построить два сортировочных завода за меньшие деньги и переработать то же количество отходов.

Сжигание мусора опасно для здоровья людей. Мы не можем контролировать, что выбрасывают в мусорный контейнер. Там могут быть и градусники, и другие опасные отходы. Все это сожгут, а вредные вещества осядут на город. И мы будем ими дышать.

**– Лет 10 назад вы рассказывали, что заказали за границей суперсовременный мусоровоз, но возникли проблемы с растаможкой. Купили за 10 тысяч евро, а за ввоз стоил в три раза дороже. И он больше месяца простоял на границе. Чем закончилась история?**

– Заплатили 38 тысяч евро. Мне вначале сказали, что растаможка обойдется в 38 тысяч. Я и представить не мог, что речь не о белорусских рублях!

## «Вместо личной жизни – общественная…»

**– Политика не мешает вашему бизнесу?**

– Когда веду переговоры с чиновниками либо бизнесменами, всегда открыто говорю о своей гражданской позиции, о должности в партии. Делаю это для того, чтобы не возникало недоразумений. В бизнесе важно, что ты предлагаешь. А остальное – принимайте меня таким, какой есть. Я ничего не скрываю.

Не хочу, чтобы произошло сращивание бизнеса с политикой. Пытаюсь четко контролировать этот момент. Не хочу, чтобы говорили, что я купил партию.

**– Сегодня многие политики жалуются на пустой кошелек. Удивила та же ОГП, всегда считавшаяся такой буржуазной партией. Но и она сегодня с протянутой рукой…**

– Читал, что за три дня они собрали чуть больше 400 рублей…

Я не считаю, что бизнес должен финансировать политические партии. Иначе можем получить ситуацию, как в Украине, где все продается и покупается…

Почему сейчас бизнес не финансирует политические партии? Потому что они не в состоянии решить никакую проблему. Чиновники же могут лоббировать тендеры, законы, соответственно, бизнес платит чиновникам. А зачем платить оппозиционным политическим партиям, которые не имеют доступа к принятию решений? Поэтому единственно верное решение – госфинансирование партий.

**– У вас есть замечания по поводу правок в Избирательный кодекс, которые внесла Канопацкая?**

– Предлагается сделать все максимально просто и прозрачно. И как-то подозрительно быстро законопроект запустили в работу… О некоторых других нюансах, а также о том, почему этот законопроект был внесен так поздно, я предпочел бы публично не говорить.

**– А как вы вообще оцениваете работу двух оппозиционных депутатов в Палате представителей?**

– Это определенный опыт. Для всех. И большой вопрос: брать или не брать депутатский мандат.

**– Во время прошлой парламентской кампании вы заявили, что если победите в округе, то откажетесь от мандата. А раньше говорили: *«Место депутата всегда рассматривал как возможность что-то изменить, у депутатов больше рычагов для решений вопросов…»***

– Сейчас я отказался бы от мандата. Наверное, вошел бы в историю…

**– Вы выступаете за мирный уличный протест. Но многие отмечают, что теперь народ не очень легкий на подъем…**

– Без протеста не будет победы. Я не призываю брать в руки оружие, но считаю, что протест должен быть долгосрочным. Мне кажется, люди выйдут на улицу, когда будут уверены, что смогут добиться своего.

**– Однажды на вопрос, не боитесь ли, что бизнес в один момент может рухнуть, вы ответили: *«Нет. У меня есть шенгенская виза, и я могу начать дело в любой другой стране»*. Сколько раз за последние годы вам хотелось упаковать чемодан?**

– Каждый раз после президентских выборов.

Если бы был просто бизнесменом, давно уехал бы. Но я еще и политик. Хочу увидеть Беларусь совершенно другой страной. Надеюсь, доживу до тех времен, когда у нас будет второй президент.

**– Дмитрий Леонидович, а что у вас сейчас с личной жизнью? Вы женаты?**

– Нет. Когда хорошо в личной жизни – страдает бизнес. И наоборот. *(Улыбается.)*

Но знаете, я даже привык к холостяцкой жизни! Много свободного времени…

**– А мама не спрашивает: *«Дима, ну когда ты женишься?»*?**

– Раньше часто об этом говорила…

Мои родители читают «Народную Волю» – я им регулярно выписываю, они в курсе всех новостей. Мама знает, что вместо личной жизни у меня общественная…

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Калі пчаляраць трутні, дык будзе мёд атрутны

19-гадовы юнак з Оршы падбухторыў свайго старэйшага сябра на «пчаліны бізнес». Каб распачаць справу, яны скралі пяць вуллёў. А калі збіраліся сцібрыць яшчэ тры, міліцыянеры схапілі іх за руку.

У моладзі сягоння ў модзе
Займець «бабло» нашармака…
Разжыцца на пчаліным мёдзе –
Ідэя ўзнікла ў юнака.
Разлічваў грэбці мёд лапатай,
Лапатай грэбці і рублі.
Аднак ахвяраваць зарплатай
І за яе купляць вуллі,
Раі пчаліныя і рамкі
Жадання не было ані.
Як кажуць, ён адразу ў дамкі
Хацеў патрапіць у гульні.
А як займець такое шчасце,
За хвост схапіць яго няўзнак?
«Усё, што трэба, можна ўкрасці», –
Прыйшоў да вываду юнак.
Каб пачувацца болей храбра,
Зладзеяваты беларус
Даўно праверанага сябра
Рашыў узяць сабе ў хаўрус.
Аднак бываюць і няўдачы…
Міліцыя – як з-пад зямлі,
Калі яны з чужое дачы
Вуллі на спінах валаклі.
Шукаць ім трэба адваката –
Узнік, як кажуць, гемарой…
А болей злой была б расплата,
Каб пакусаў пчаліны рой.

* * *

Салодкі мёд, але атрутны,
Калі ён з прысмакам крамолы.
Яны хацелі жыць як трутні,
А трэба рупіцца як пчолы…

## І нарэшце кожны з нас можа сесці на ўнітаз

Праз 13 гадоў пасля адкрыцця Нацыянальнай бібліятэкі ў туалетах установы нарэшце з'явіліся ўнітазы. Пра гэта паведаміў «Нашай Ніве» загадчык гаспадарчай часткі бібліятэкі Леанід Крыўцоў. Ён жа абрадаваў навінай, што з'явіцца і туалетная папера (раней яна была толькі каля рукамыйнікаў).

Давайце згодзімся, панове,
Тым больш што гэта не сакрэт:
Любой саліднай установе
Мець неабходна туалет.
Канешне, і бібліятэка
Не засталася ў старане,
Бо то ж бяда для чалавека,
Як «бунтаваць» жывот пачне…
Відаць, сарцір рабілі шэльмы
Ці ў іх паехалі глузды,
І бедавалі людзі вельмі,
Візіт наносячы туды.
Як быццам у «шпакоўнях» дзесьці,
Што за хлявамі і ля дач,
Там нават на ўнітаз прысесці,
Прабачце мне, не мог чытач.
Не дасць, магчыма, хтосьці веры
Ці скажа мне, што я – трапло,
Ды й туалетнае паперы
У прыбіральнях не было!
Якім ні быў бы самавітым,
Але цягнулася рука,
Каб з кнігі перад тым «візітам»
Старонку вырваць спадцішка.
Бібліятэка несла страты,
Бо шмат было сапсутых кніг.
Хоць чытачы і вінаваты,
Ды апраўдаць магчыма іх.
Цяпер – інакш! Ва ўсякім разе
Бібліятэкі слынная госць
Прысесці можа на ўнітазе,
І для яго папера ёсць.
Мяне парадавала гэта!
Скажу станоўчых змен наконт:
Цяпер наведнік туалета
Больш не псавацьме кніжны фонд…

## Галоўнае, што без канвою

Падслухаў дыялог тыповы –
Сышліся бізнесоўцаў двое:
– Якія людзі без аховы!
– Галоўнае, што без канвою…

## Як выправіць почырк

Калі хочам мы, каб дактары
Не пісалі «леваю нагою»,
Мусіць, не патрэбна нам, сябры,
Ім дарыць спіртовыя напоі…

## Спатыкнулася

Путана неяк сярод ночы
Так спатыкнулася няўдала
І твар паквэцала, што тройчы
Сваю прафесію назвала…

## Мова без мату

Пра мовы думак ёсць багата.
Мне ж даспадобы акурат,
Што мова руская без мату
Ператвараецца ў даклад…

## Пакуль не злавілі…

– У вашы гады, маладзёны,
Мяне не адольвала стома,
Хаця разгружаў я вагоны!
Пакуль не злавілі, вядома…

## На вайне

Ваяваў з дэпрэсіяй. Сябры
Памагалі мне і «змей зялёны»:
Страціў «змей» свае галовы тры,
А сябры падносілі «патроны»…

РЭЗАНАНС

# Не маеш рацыі, спадар Казлоўскі…

У «Народнай Волі» за 18 чэрвеня Казімір Казлоўскі з Гомеля папракае бацькоў Ялінкі Салаўёвай тым, што яны, маўляў, не знайшлі дзяцей, каб дачка не адна вучылася ў беларускамоўным класе. Што ж, крытыкаваць можна, але ці можа сам спадар Казлоўскі пахваліцца сваёй актыўнасцю? Ці многа ў Гомелі створана беларускамоўных класаў? Калі не памыляюся, з гэтым у яго горадзе таксама вялікая праблема.

Наконт сітуацыі з Ялінкай скажу так. Ялінка нікога не перамагала, яна проста вучылася, вучылася старанна, ды і як інакш можна разумнаму дзіцяці, калі ты самнасам з настаўнікам? Перамаглі, лічу, яе бацькі, якія дамагліся для дачкі выключных адукацыйных варункаў. Папракаць іх, у прынцыпе, ёсць за што, але зусім не за тое, за што папракае Казлоўскі.

А эківок у бок магілёўскіх тэбээмаўцаў («Яны што, не маглі падключыцца і разам вырашыць праблему?»), на мой погляд, зусім недарэчны. Магілёўская гарадская арганізацыя ТБМ – адна з найбольш актыўных у краіне, дзякуючы найперш няўрымслівасці яе лідара Алега Дзьячкова. І толькі з падтрымкай ТБМ Ялінка атрымала права і магчымасць вучыцца на роднай мове. Мог бы доўга распавядаць, што робіць гэты чалавек і яго паплечнікі дзеля пашырэння ўжытку роднай мовы ў нашым горадзе. Скажу толькі, што ў Магілёве праводзіцца самы масавы ў краіне чын агульнанацыянальнай дыктоўкі да Міжнароднага дня роднай мовы: пісаць яе ў Белую залу абласнога Палаца культуры збіраюцца па 120–150 магілёўцаў рознага ўзросту, рознай адукацыі, розных прафесій.

А ў дадатак паведамлю, што ў той жа школе №1 працягваюць адкрывацца беларускія класы (ужо не з адным вучнем). Падключылася да гэтай працы і школа №34, дзе ўжо маецца некалькі беларускіх класаў. І беларускамоўны дзіцячы садок у Магілёве ёсць. Ці можа пахваліцца гэтым Гомель ці гомельская арганізацыя ТБМ? Дый ці ёсць там яна? А калі ёсць, ці з'яўляецца спадар Казімір яе сябрам?

Канешне, пускаць слёзы ў замілаванні Магілёвам не трэба. Справа ідзе, але ідзе няпроста, натужліва, марудна. Гарадскія ўлады нібыта не супраць, але дапамога ад іх мізэрная. Нават пусціць адмысловы аўтобус (два рэйсы ў дзень), які падвозіў бы ў названыя школы дзяцей з далёкіх раёнаў горада, – праблема непераадольная. І такіх нявырашаных пытанняў процьма.

Мы, магіляўчане, не скардзімся Казлоўскаму. Паступова вырашаем праблемы. А яму варта азірнуцца на сітуацыю ў Гомелі. І не бурчаць пра чужыя перамогі-неперамогі.

**Міхась БУЛАВАЦКІ,**
**старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі «Таварыства беларускай мовы».**
*Магілёў.*

ИЗ ПИСЬМА

# Пожалейте мужчин…



На страницах «Народной Воли» уже несколько раз поднимался вопрос о том, что нужно вернуться к старому пенсионному возрасту для мужчин. Выходили они на заслуженный отдых в 60 лет – пусть так будет и дальше. Из-за многих причин, в том числе последствий чернобыльской катастрофы, далеко не все мужчины доживают у нас даже до этого возраста.

И вообще, почему бы белорусским властям не перенять опыт той же Турции. Там, начиная, кажется, с 50 лет, каждый гражданин сам вправе решать, когда ему уходить на пенсию.

**Х.Ц.ЛИШТВАН.**
*г.Буда-Кошелево.*

НАБАЛЕЛА!

# Папяровы пінг-понг

Чула я краем вуха, быццам у нас пачынаецца дэбюракратызацыя чыноўніцкага апарату. Дзіва дзіўнае! Хто калі пра гэта гаварыў з экрана, пісаў у дзяржаўнай прэсе, біў у званы? І тут раптам спахапіліся, што гэты самы апарат не зусім дасканалы і трэба нешта рабіць, каб яго палепшыць.

Я нават ведаю, адкуль ногі растуць: Адміністрацыя прэзідэнта завалена скаргамі на ўсе ніжэйшыя інстанцыі. Ужо ж тут, думаюць людзі, знойдзем праўду і справядлівасць. І якое жорсткае расчараванне: адфутбольваюць і адсюль – акурат да тых, на каго пісалі «цялегу». Справы не вырашаюцца, беззаконні чыняцца, на ўсе звароты адсылаюцца ад мясцовага кіраўніцтва бяздушныя адпіскі.

Што такое чыноўніцкі пінг-понг, я зведала на ўласным вопыце. На нашай вуліцы Міхася Лынькова памянялі назву прыпынку. На шыльдзе напісана «Міхалянка» (былое ўрочышча), а дыктар у аўтобусе аб'яўляў: «Наступны прыпынак – Міхал*е*нка». Два гады спатрэбілася, каб паправіць дыктарскі тэкст. Два гады тэлефонных і пісьмовых зваротаў і размоў у кабінетах. Пытанне па сутнасці дробнае, але прынцыповае. Па-першае, існуе Закон аб геаграфічных найменнях, які вымагае правільнага напісання і, натуральна, вымаўлення тапоніма. Па-другое, навошта ствараць у пасажыраў кагнітыўны дысананс – каб яны чыталі адно, а чулі другое?

Валакіта адбывалася так: ты тэлефануеш на «гарачую лінію» – нічога не мяняецца. Ты звяртаешся ў «Мінсктранс» – і табе аддзел перавозак паведамляе, што ў аўтобусе №69 дадзены прыпынак агучаны «карэктна». Перавозчыкі ўвогуле павінны займацца непасрэднай справай, а не фанетычнымі тонкасцямі, скажаце вы, і я вас цалкам разумею. Хай бы апраўдваўся аддзел рэкламы, які замаўляе агучванне нейкай прыватнай фірме.

Тады я вырашыла абысці транспартнікаў і звярнулася ў менш вядомыя «Мінскія транспарт і сувязь». Уся гарадская сетка, усе здвоеныя рэйсы розных маршрутаў, папулярныя ў Мінску (па прынцыпе «мы з Тамарай ходзім парай»), на сумленні гэтай установы. «Мінсксувязь» утульна ўладкавалася за спінай у транспартнікаў, падпарадкоўваецца гораду, то бок сталічнаму выканкаму, і адчувае сябе важнай птушкай.

Мяне намеснік кіраўніка выслухаў – і толькі. Выніку не было, дарма ногі біла. Пішу зварот на адрас выканкама (трэба ж неяк дабіцца толку). І што ж? Першы ліст канцылярыя адпраўляе ў «Мінсктранс», а другі – няцяжка здагадацца – у «Мінсксувязь». Тыя, як згаварыўшыся, зноў адказалі, што ўсё агучана правільна і «карэктна». Кола замкнулася. Але якіясь шэсцерні ўсё ж зрушыліся і зарыпелі, бо ў канцы мінулага года шматпакутную «Міхалянку» ўрэшце пераагучылі «ў правільнай рэдакцыі». Не прызнаўшы пры гэтым заслужанай крытыкі. На жаль, зрабілі не ўсё: рукі не дайшлі да прыпынку «Сквер Палянка», які аб'яўляецца як «Пал*е*нка».

Пра зачараваны папяровы круг часта пішуць чытачы «Народнай Волі». І вось што я пачала разумець. Там, дзе ва ўпор не хочуць бачыць і вырашаць праблему, у некага рыльца ў пушку: мае месца або грашовая махінацыя, або службовы падлог, або яшчэ якія трасца з халераю. Ну і кругавая парука, само сабой. Начальнік аддзела па рабоце са зваротамі грамадзян Т.Селівончык ведае сваю справу: грудзьмі стаіць на абароне сталічнага чынавенства.

І тут маё цярпенне лопнула: ды што я ўсё звароты кляпаю? Пашлю я лепей электронную скаргу на імя самога мэра. З патаемнай надзеяй, што ён прыструніць сваё былое і добра вядомае ведамства.

Адказ з той самай канцылярыі прыйшоў назаўтра. Усхваляваны жаночы голас паведаміў, што маё пытанне не ўваходзіць у кампетэнцыю мінскай гарадской жыллёвай гаспадаркі, і мне неабходна звяртацца ў «Мінсктранс». Як той разгублены Саўка, я толькі патыліцу пачухала. Пры чым тут ЖКГ?! Хіба я звярталася ў ЖКГ? Ці гэта хітры прыём, як выратаваць начальніка ад неабходнасці рэагавання?

Так паводзяць сябе постсавецкія бюракраты, здольныя заблытаць самае простае пытанне і ствараць сабе ворагаў на пустым месцы. Так дыскрэдытуюцца дзяржаўная органы. Дык, можа, дастаткова, каб запрацаваў Закон «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб»? Парачка судоў над злоснымі яго парушальнікамі паправілі б сітуацыю. Але тады першай пойдзе пад суд сама прэзідэнцкая адміністрацыя, якая падае прыклад, як гэты закон ігнараваць.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА




## Предложение о зачете срока службы в Вооруженных силах в страховой пенсионный стаж поддержано большинством государственных органов, сообщили в Министерстве обороны Беларуси

По данным министерства, отдельные ведомства еще не согласовали данную норму, но Минобороны собирается продвинуть это предложение, чтобы повысить социальный статус солдата.

Кроме зачета срока службы в страховой пенсионный стаж Минобороны называет и некоторые другие преференции для солдат, отслуживших срочную военную службу или службу в резерве.

Если проблема решится положительно, то герой карикатуры Ирины Пустоваловой с удовольствием сменит косу на автомат.

**Рисунок Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.**

ПОГЛЯД

# Гісторыя, якую Беларусь губляе

*У мінулую нядзелю ў суседняй Польшчы святкавалі 450-годдзе падпісання Люблінскай уніі – саюза паміж Каронай Польскай і Вялікім Княствам Літоўскім. Асноўныя ўрачыстасці ладзіліся на месцы гістарычнай падзеі – у польскім горадзе Любліне.*

Мне як этнічнаму ліцвінубеларусу было досыць крыўдна і балюча чытаць паведамленне, што галоўным прадстаўніком ВКЛ на святкаванні стала сучасная Літва. У Люблін прыехаў спікер літоўскага Сейма Віктарас Пранкеціс. Адбылося таксама пасяджэнне Парламенцкай асамблеі Польшчы і Літвы.

Беларускі бок на гэтых урачыстасцях выглядаў пятым колам у возе. Як вынікае з інфармацыі сайта Палаты прадстаўнікоў, у Любліне на святкаванні гістарычнай падзеі прысутнічаў дэпутат ад Бярозаўскай выбарчай акругі №9 Леанід Качына, у мінулым – галоўны інжынер ААТ «Бярозаўскі сыраробчы камбінат». Ён – член Пастаяннай камісіі па эканамічнай палітыцы і кіраўнік так званай працоўнай групы Нацыянальнага сходу па супрацоўніцтве з парламентам Польшчы.

На ўрачыстым пасяджэнні Леанід Качына выступіў з 6-хвіліннай прамовай. Гаварыў па-руску, пераказваючы агульнавядомыя факты: 1 ліпеня 1569 года пасля падпісання Люблінскай уніі дзве краіны – Вялікае Княства Літоўскае і Польшча – аб'ядналіся ў адну федэратыўную Рэч Паспалітую. Паводле слоў дэпутата, гэтая «гістарычная мадэль» стала ўзорам вырашэння праблем ва Усходняй Еўропе, паспрыяла партнёрству і стабільнасці. Падзея вартая вывучэння акадэмічнымі коламі і палітыкамі.

Пасланец Палаты прадстаўнікоў, аднак, ні словам не абмовіўся аб тым, што ВКЛ перадусім – сярэднявечная беларуская дзяржава, а не сучасная Літва.

Старажытная Літва была гістарычнай вобласцю Беларусі, што пераканаўча даказаў выдатны гісторык і пісьменнік Мікола Ермаловіч у сваёй кнізе: «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае». І месцілася Старажытная Літва на захадзе ад Менска. Межы яе пачыналіся ад правабярэжжа ракі Уса каля Негарэлага, на поўдні агібаліся Шчарай-ракою ўключна са Слонімам і цягнуліся на поўнач праз Наваградак да паселішча Палачаны, што пад Маладзечна. Тут па нёманскай Бярэзіне яна межавала з Полацкім княствам.

Назву «Літва» даследчыкі звязваюць з коранем «лі» ў нашым дзеяслове «ліць», у цяперашнім літоўскім назоўніку «лietус» – дождж. Словам, ліцвіны – гэта жыхары Літвы, то бок вільготнай мясцовасці. Пацвярджэннем гэтаму з'яўляюцца адпаведныя тапонімы, якія да сённяшняга дня захаваліся ў Стаўбцоўскім, Уздзенскім, Слонімскім, Маладзечанскім раёнах. У маім родным Ляхавіцкім раёне, што на Брэстчыне, ёсць вёскі Літва і Літоўка.

Падавалася, што 450-годдзе Люблінскай уніі – добрая нагода заявіць пра глыбокія карані беларускай дзяржаўнасці, якія выразна акрэсліліся ўжо ў сярэдзіне XIII стагоддзя. У той час ліцвінскі князь Міндоўг, перайшоўшы на службу ў Новагародскую зямлю, падначаліў сабе і Старажытную Літву ў Верхнім Панямонні. За Міндоўгам Гедымін і Альгерд пашырылі беларускія тэрыторыі за кошт Аўкштайціі і Жамойціі, а таксама ўкраінскіх земель на Валыні, Падоллі, Кіеўшчыне, якія мелі назву рускіх. Не кажу ўжо пра сабраныя ў адно цэлае беларускія княствы – Полацкае, Менскае, Турава-Пінскае.

Усходняя мяжа ВКЛ праходзіла па рацэ Угры каля цяперашняй расійскай Калугі. Адсюль і поўная назва – Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае.

На мой погляд, 30 чэрвеня ў Любліне мелася б ладзіцца трохбаковая Парламенцкая асамблея. І беларускія парламентарыі мусілі іграць тут адпаведную скрыпку. Ёсць жа ў дэпутацкім асяродку і гісторыкі, прыкладам, Ігар Марзалюк, які параўнальна нядаўна стаў яшчэ і членам-карэспандэнтам НАН Беларусі. Два месяцы таму ён урачыста пераразаў чырвоную стужку каля ўсталяваных парэнчаў на спуску ў гарадскім парку Магілёва, а зараз не заўважыў такую гістарычную дату, як 450-годдзе падпісання Люблінскай уніі.

Забывацца на тысячагадовую гісторыю станаўлення беларускай дзяржаўнасці нам ніяк не выпадае. Бо акурат праз яе і адбываецца ўмацаванне нацыянальнай ідэнтычнасці, а заадно і ўсведамленне сваёй незалежнасці і суверэнітэту.

На падпісанне Люблінскай уніі паслы ВКЛ пайшлі не ад добрага жыцця. Ішла цяжкая Лівонская вайна. Пасля рэгулярных нападаў на землі ВКЛ войскі маскоўскага цара Івана Жахлівага авалодалі Полацкам. Для барацьбы з Масковіяй былі патрэбны вялікія сілы. Нездарма ж Мікалай Радзівіл Руды сказаў на Люблінскім сойме: «На нашым хрыбце быў непрыяцель, калі мы ад'язджалі сюды».

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**
*Гомель.*

НРАВЫ

# Сбежала из дворца!

*Жена правителя Дубая Мохаммеда бин Рашида принцесса Хайя сбежала от него, прихватив с собой почти 40 млн долларов. Она скрывается в Германии вместе со своими детьми: 11-летней дочерью и семилетним сыном, где попросила убежища, подав на развод после прибытия.*

Мохаммед бин Рашид требовал насильственного возвращения семьи, однако Берлин ему отказал. До этого от Мохаммеда бин Рашида пыталась сбежать дочь. Сама принцесса Хайя – одна из младших жен правителя Дубая – дочь короля Иордании Хусейна ибн Талала и королевы Алии аль-Хуссейн, сестра нынешнего короля Иордании Абдаллы II. Она принадлежит к Хашимитской династии и является прямым потомком пророка Мухаммеда в 43-м поколении. Среднее и высшее образование принцесса Хайя получила в Великобритании, где она училась в школе-интернате Бадминтон для девочек, выпускницей которой была Индира Ганди. Позже принцесса училась в школе совместного обучения Брайенстон в графстве Дорсет. Диплом бакалавра с отличием в сфере философии, политики и экономики она получила в колледже Св.Хильды Оксфордского университета. Принцесса владеет английским и французским языками, понимает еще четыре языка, в том числе



русский. В 2002 году она стала первой арабской женщиной, принявшей участие в чемпионате мира по конному спорту в испанском городе Хересе. Ее личные заслуги и достижения за несколько лет вывели Иорданию в авангард конного спорта. В 2006 году принцесса Хайя была избрана президентом Международной федерации конного спорта, она является членом Международного олимпийского комитета.

Но даже при всех этих заслугах она не могла нормально развестись с мужем в ОАЭ, оставалось только бежать.

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

# Шансы Франса Тиммерманса возглавить Еврокомиссию выросли

Из гонки за пост главы ЕК выбыл прежний фаворит, немец Манфред Вебер, после чего заметно повысились шансы на победу у голландца Франса Тиммерманса. Но страны Вышеградской группы против его кандидатуры.

За несколько часов до внеочередного саммита ЕС, который открылся 30 июня, председатель Евросовета Дональд Туск провел целый ряд интенсивных переговоров с целью согласовать кандидатуру нового председателя Еврокомиссии.

В первой половине дня Туск встретился в Брюсселе с представителями либеральной фракции в Европарламенте и с премьер-министром Испании – социалистом Педро Санчесом. Затем последовали встречи с представителями всех фракций Европарламента и его председателем Антонио Таяни.

На этом саммите главам государств и правительств стран ЕС предстоит не только определить преемника нынешнего главы Еврокомиссии Жана-Клода Юнкера, но и решить, кто станет новым председателем Евросовета и верховным представителем ЕС по внешней политике и безопасности.

СЛЫШАЛИ?

## Евросоюз продлил санкции против России

*Они направлены на финансовый, энергетический и оборонный сектора, а также на товары двойного назначения.*

Впервые санкции были введены 31 июля 2014 года на один год в ответ на действия России по дестабилизации ситуации в Украине и усилены в сентябре 2014 года. Теперь они будут действовать до 31 января 2020 года.

ТЕНДЕНЦИИ

## Больше всего безработных в Греции

*Безработица в Еврозоне достигла самого низкого уровня за 10 лет – 6,8%, сообщает европейское статистическое агентство Евростат. Больше всего безработных было в 2013 году – почти 11% экономически активных европейцев.*

Самый низкий уровень безработицы оказался в Чехии (2,1%), следом идут Германия (3,2%) и Нидерланды (3,3%).

Больше всего безработных в Греции – 18,5%. Впрочем, это на 9% меньше, чем в 2013 году (27,5%), когда уровень безработицы в Греции был самым высоким за последние 10 лет. При этом именно в Греции безработица сокращается быстрее, чем в других странах ЕС. Например, за последний год она снизилась на 2%. Следом за Грецией идут Испания (13,8%) и Италия (10,2%).

Молодежная безработица тоже снизилась. В среднем в ЕС она составляет 14,2%; это на 4,5% ниже, чем в 2016 году.

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Без ажиотажного интереса

*Дважды за последние недели канцлера Германии Ангелу Меркель на глазах у публики охватывали приступы неудержимой дрожи. Тему подняли некоторые немецкие бульварные газеты, но ажиотажного интереса публики и солидных средств массовой информации состояние здоровья канцлера не вызывает. Как и других высокопоставленных чиновников.*

### Самочувствие политика в Германии – его личное дело

В отличие, например, от США или Франции, где у президентов есть личные врачи, а результаты их регулярных медицинских освидетельствований становятся предметом публичных дискуссий, в Германии здоровье политиков считается их личным делом.

И на физическое состояние первых, вторых или третьих лиц в государстве немцы обращают куда меньше внимания, чем, скажем, в России. Россияне постарше наверняка помнят, сколько пересудов вызывали слухи о недугах советских лидеров.

Так и должно быть в нормальной демократической стране, считает известный немецкий историк Пауль Нольте. Политики – тоже люди, напомнил он в интервью газете Die Welt и назвал странным то обстоятельство, что и в условиях демократии физическая неуязвимость порой является элементом имиджа политика. Мы же не монархия и не диктатура, пояснил историк, республика же это такая форма правления, при которой правят законы, а не люди.

### Если канцлер ФРГ заболеет...

У каждого немецкого политика, как и у любого другого жителя Германии, есть семейный врач. К нему обращаются в случае недомогания. Это, как правило, обычный терапевт. В случае необходимости он отправляет пациента на консультацию к специалисту.

В ведомстве же федерального канцлера, рассказали корреспонденту DW в его пресс-службе, нет даже своего медпункта, в котором бы постоянно дежурил врач. Иное дело – зарубежные визиты. Будь то федеральный президент или канцлер, МИД включает в состав делегации и врача.

Но и в Берлине Ангела Меркель может быть уверена, что быстро получит квалифицированную медицинскую помощь. В двух шагах от ведомства федерального канцлера находятся знаменитая университетская клиника Charite и головной госпиталь бундесвера. Именно в Charite в 2012 году канцлеру делали операцию на колене.

### Болезнь и политический рейтинг

К болезням, физическим недостаткам или изъянам политических деятелей немцы относятся спокойно и без особого сострадания. В числе самых популярных и уважаемых в Германии политиков, например, председатель бундестага, ранее на протяжении многих лет занимавший пост министра финансов Вольфганг Шойбле. После покушения он уже несколько десятилетий прикован к инвалидному креслу, что не влияет на его рейтинг. Ни в ту, ни в другую сторону.

Правительство федеральной земли Рейнланд-Пфальц и пост сопредседателя Социал-демократической партии Германии занимает Малу Драйер, которой еще в 1995 году был поставлен диагноз рассеянный склероз. Болезнь – ее симптомы она и не пытается скрывать – не помешала Драйер в 2016 году одержать убедительную победу на земельных выборах.

### Отставка по состоянию здоровья в порядке вещей в Германии

В недавней истории Германии было несколько случаев, когда политические деятели уходили со своих постов по состоянию здоровья. Так поступил, в частности, Маттиас Платцек, долгое время возглавлявший правительство федеральной земли Бранденбург и короткое – с ноября 2005-го до апреля 2006 года – партию социал-демократов. Платцек перенес несколько разных заболеваний, но после легкого инсульта в 2013 году все же решил уйти с нервной работы.

Летом 2017 года болезнь побудила уйти в отставку премьер-министра федеральной земли Мекленбург – Передняя Померания Эрвина Селлеринга. Диагноз – рак лимфатических узлов. Курс лечения, судя по всему, оказался удачным. Недавно Селлеринг вернулся в земельный ландтаг, но на руководящие посты он больше не претендует.

В 2018 году ушел в отставку тяжело болевший генеральный секретарь Христианско-демократического союза Петер Таубер. Из-за острой формы дивертикулита его состояние было критическим, Таубер перенес несколько сложных операций. Потом дело пошло на поправку. В настоящее время он занимает куда менее влиятельный, чем генеральный секретарь, пост статс-секретаря в Министерстве обороны.

В начале этого года о намерении больше не выставлять свою кандидатуру на должность сопредседателя парламентской фракции посткоммунистической Левой партии Сара Вагенкнехт. Причиной она назвала медицинские противопоказания, не уточнив, однако, какие именно.

НАУКА

## В США на собаках тестируют вакцину от рака

*Ученые намерены посмотреть, затормозит ли прививка уже присутствующую в организме опухоль, а также предотвратит ли она возникновение рака у здоровых особей, информирует enovosty.*

Тестирование проводит группа специалистов из Аризонского университета. Один из исследователей, Стивен Джонсон, признался, что уже на протяжении 10 лет ведет поиски в этой области медицины. Он также добавил, что рак – главная причина гибели взрослых собак.

По словам Джонсона, у собак онкозаболевание развивается почти так же, как и у людей. Часто опухоли долго остаются незамеченными и могут внезапно развиваться в старости.

В исследованиях на данный момент задействовано 800 собак. Эксперимент будет продолжительным. Лишь через 3–5 лет ученые смогут сделать выводы об эффективности прививок. Сейчас вакцинируют лишь здоровых особей.

Добавим, что большинство экспертов-онкологов скептически относятся к противораковым вакцинам. Они считают, что угадать с прививкой практически невозможно, потому что существует очень много видов онкозаболеваний и они все ведут себя по-разному.

Стивен Джонсон на такие разговоры своих коллег ответил, что если существует хотя бы 10-процентная вероятность эффективности прививки, то этот шанс необходимо использовать.

АРТ-ЖИЗНЬ

# Знаменитый тенор Павел Петров приезжает в Минск, чтобы спеть один спектакль в Большом театре

Настоящие певческие карьеры – это всегда вертикальный взлет. Тенора Павла Петрова еще студентом второго курса Академии музыки пригласили работать в штат Большого театра. Он исполнял Ленского в «Евгении Онегине», Альфреда в «Травиате», Лыкова в «Царской невесте». Другой бы удовлетворился и посапывал в шапку, ожидая новых ролей. Но Петров через несколько лет уехал стажироваться в студию Цюрихского оперного театра (Швейцария). А потом мы стали свидетелями того, как на белоруса посыпался дождь из престижных наград. Сначала это было третье место в конкурсе «Бельведер», а буквально через несколько месяцев – первое место на знаменитой «Опералии», конкурсе, который проводит сам Пласидо Доминго. И это все за один 2018 год.

И понеслось! Ангажементы, аплодисменты, гастроли.

Несколько дней назад мы разговаривали с Павлом Петровым по мессенджеру. На сцене прославленного итальянского театра «Арена-ди-Верона» он пел Альфреда в «Травиате». До этого месяц работал в Австралии. А живет с семьей теперь в австрийском Граце. Там же работает в оперном театре.

**– Здание Оперы Грац – это такое королевское великолепие...**

– Для меня – а я побывал во всех театрах Австрии – по красоте Опера Грац первая. Ничто не может сравниться с ней по богатству интерьера, даже Венская опера. Поверьте на слово.

**– А для артистов гримуборные удобные?**

– Я не привередливый. Нормальные.

**– У оперных певцов спрашивают райдер? Что вы обычно просите?**

– Ничего специально не прошу, но в топ-театрах во время репетиции приносят на сцену воду.

**– Ваш дом еще надолго останется в Граце?**

– Я не назвал бы это домом, я назвал бы это базой. Мы не останемся жить в Граце, это не мой город, я люблю побольше – как Минск или Вена. Грац прекрасный город – для пенсии: пива попить, как это любят делать австрийцы. А нам скучновато.

**– Вы еще будете участвовать в международных конкурсах?**

– Я люблю конкурсы, там появляется задор, кураж. Я поездил бы, но моя умная жена говорит, что нет смысла. И времени уже нет.

**– А чем занимается ваша супруга?**

– Они пианистка, окончила, как и я, Белорусскую академию музыки. А теперь учится в Вене на репетитора, получает второе высшее образование. Все для семьи, как говорится – чтобы учить со мной партии. Сама захотела, я не настаивал.

**– Можно сказать, что вы счастливчик: работаете концентрированно и результативно.**

– Счастливчик – это тот, кто ничего не делает, а ему – хоп! – и подвернулось. У нас очень много «счастливчиков» работает в театре: сидят и ждут. Впрочем, возможно, у них есть план. А я конкретно поработал над своим результатом.

**– Что приобрел ваш прекрасный голос за годы работы за границей в знаменитых театрах?**

– О голосе судить публике – 5 июля минчане услышат меня в «Богеме». Я надеюсь, что он не стал хуже. Театры, в которых я работаю, – знаменитые площадки, они имеют возможность приглашать вокалистов топ-уровня. Если ты работаешь рядом с ними в спектаклях, то не просто присутствуешь,



но и учишься. Или вот Цюрих. На данный момент это театр первого уровня, как Метрополитен-опера, Ла Скала и Венская опера. Там выступают мировые звезды, и, когда я был зачислен туда в оперную студию, к моим услугам были классные коучи (педагоги), я получил огромный творческий импульс.

**– Вы научились как следует заботиться о своем голосе?**

– Раньше я об этом не думал, был молодой…

**– …а теперь в 27 лет старый?**

– Ха-ха! Ну да. Был зеленый, здоровье отличное, и на все наплевать. А теперь, когда спектакли через день, приходится рассчитывать свои силы. Чтобы петь хорошо, могу день и помолчать – это лучшее лекарство для голоса. Тот, кто меня знает, не поверит, наверное, потому что поболтать я очень люблю. Молчание мне тяжело дается.

**– Сложно правильно распределить силы, верно? Опыт нужен.**

– Да. В Граце я однажды не рассчитал… Но вообще это был нонсенс: девять оркестровых репетиций «Лючии ди Ламмермур» Доницетти. Такого не бывает. И к генеральной репетиции почувствовал, как голос устал, – молодая горячая кровь меня погубила. Пришлось на день замолчать. Зато премьеру провел хорошо. Хотя очень серьезная партия, мне говорили, что петь ее рановато. И правда: я с ней все-таки повременю.

**– В европейских театрах, где вы работали, много славянских певцов?**

– Их много везде. Очень много. И вообще, куда бы ни приехал, даже в Австралию, и то найдется человек, который говорит по-русски. В Сиднее это была дирижер. Правда, она была из Румынии.

**– Павел, сколько вам нужно времени, чтобы выучить новую партию?**

– Зависит от того, на каком языке. Я люблю учить медленно. Тогда и на голову, и на голос музыка хорошо ложится. Но теперь времени на это, как правило, нет. Оперу Моцарта «Так поступают все женщины» – одну из самых тяжелых опер для тенора (и это был, замечу, первый мой Моцарт) – я выучил за месяц. А параллельно репетировал «Лючию ди Ламмермур».

**– Ну вот и усталость голоса…**

– Да, чуть не свихнулся.

**– В Италии, где вы сейчас работаете на сцене «Арена-ди-Верона», жуткая жара. Как с ней боретесь?**

– Кондиционеры не включаем, опасно для голоса. Истекаю потом, а что делать? Но теперь приеду в Минск на месяц, отдохну наконец. И выучу две новые оперы: «Риголетто» Верди и «Любовный напиток» Доницетти.

**Елена МОЛОЧКО.**

ЛЁС ЧАЛАВЕКА



## Пілот Пятра Машэрава:

# «Блат ні пры чым – толькі кваліфікацыя і адсутнасць «залётаў»

*Эдуард Сташкевіч дастаўляў першых асоб савецкай Беларусі ва ўсе канцы СССР. Ён ужо даўно на пенсіі, але цудоўна памятае той насычаны перыяд уласнай біяграфіі.*

### «Літарныя» рэйсы для партыйнай эліты

Эдуард Сташкевіч у сярэдзіне 1970-х вазіў на ўрадавым самалёце Першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава. Да прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі менавіта гэты камуніст-партызан заставаўся рэкардсменам па знаходжанні ва ўладзе – 15 гадоў. Верагодна, кіраваў бы і даўжэй, калі б трагічна не загінуў у аўтакатастрофе 4 кастрычніка 1980 года. На момант смерці яму было 62 гады, летась адзначалі 100-гадовы юбілей.

«На аэрадроме «Мінск-1» базіраваўся самалёт Як-40 для ўрадавых патрэб, – гаворыць 87-гадовы ветэран авіяцыі. – Адзін экіпаж ляцеў, другі абавязкова быў у рэзерве. Натуральна, абслугоўвалі не толькі Пятра Міронавіча, а і іншых дзяржаўных, партыйных чыноўнікаў. Падзел быў на так званыя «літарныя» рэйсы: А – калі ляціць першы сакратар ЦК, члены і кандыдаты ў члены бюро ЦК; К – некуды адпраўляецца старшыня Вярхоўнага Савета ці Саўміна; Д – дэпутаты, міністры і г.д».

Ці проста было патрапіць у элітнае авіяпадраздзяленне? Як тлумачыць Эдуард Рыгоравіч, у дадзеным выпадку значэнне мелі толькі ступень прафесіяналізму і адсутнасць «залётаў» па службе.

«Па блаце туды дакладна не бралі, – усміхаецца былы пілот. – Па-першае, асабістую справу разглядалі адпаведныя органы – падыходзіць кандыдат на такую працу ці не (нават калі б крыху сумняваліся, не ўзялі б). Па-другое, у мяне не было ніякіх «касякоў», каб па нейкай прычыне адмовіць. Па-трэцяе, я фактычна з 15 гадоў у авіяцыі, то бок меў вялізны практычны досвед у самых розных сітуацыях».

Сваю «абранасць» Эдуард Сташкевіч у немалой ступені звязвае з экстрэмальным вопытам, які мог каштаваць жыцця і яму асабіста, і калегам-пілотам, і пасажырам.

### Выпрабаванне нештатнай сітуацыяй

Здарылася гэта незадоўга да запрашэння ва ўрадавы атрад – экіпажу пасажырскага самалёта Іл-14, на якім тады працаваў Эдуард Сташкевіч, сумеснымі высілкамі ўдалося пазбегнуць трагедыі.

«Ляцім з Кіева: атмасферныя франты, там-сям пабаўтала, а да Мінска надвор'е сапсавалася. Камандзір запрасіў дазволу на пасадку, дыспетчар папярэдзіў пра абмежаваную бачнасць. Ідзём па прыборах, зямлі няма – вышыня воблачнасці метраў 400. І страшны лівень, аж грохат па абшыўцы. Тым не меней па ўсіх правілах прызямліліся: дакладна, без штуршкоў. Па тармазах – не трымаюць, эфект глісіравання. Плывём, як на чоўне, такі пласт вады, ніякага счаплення колаў. І вось так юзам на поўнай хуткасці імчым да канца паласы. А поўны салон людзей…»

Першым чынам некіраваная махіна падмяла пасадачныя сігнальныя ліхтары, страціўшы частку крыла. Следам была знесена агароджа, выскачылі на вуліцу Брылеўскую – балазе, паспеў ад'ехаць ад прыпынку аўтобус. З пашкоджанага фюзеляжа пачало выцякаць паліва. Сарыентаваўшыся, экіпаж адключыў электрычнасць, у цемры чуліся крыкі напалоханых пасажыраў… Пакаціўшы па зямлі, самалёт урэшце спыніўся, праз аварыйныя выхады пачалася эвакуацыя.

Калі аб падмурак плота падламаліся пярэднія колы, ударылі ў падлогу – якраз туды, дзе знаходзіўся Эдуард Сташкевіч. Пазней у лякарні медыкі дыягнаставалі кампрэсійны пераломам хрыбта. Іншых членаў экіпажа таксама пакідала па кабіне: пераломы канечнасцяў, страсенні; былі шпіталізаваны некалькі пасажыраў. Але ўсе жывыя.



Пасля курсу рэабілітацыі за пісьменныя дзеянні падчас нештатнай сітуацыі Эдуард Сташкевіч разам з іншымі членамі экіпажа быў рэкамендаваны для службы ва ўрадавым атрадзе. Так пачаўся новы этап...

### Ахвяраваць заробкам дзеля статусу

У матэрыяльным сэнсе статусная праца, працягвае колішні пілот, не была прыбытковай – заробкі хутчэй вышэй за сярэднія, чым высокія. Усё ж шчыльнасць графіка саступала рэгулярным рэйсам, а бюджэт авіятара фарміруецца менавіта ад колькасці гадзін налёту.

«Я меў прыкладна 180–200 рублёў, нават па тым часе не так шмат, – прыкідвае ён. – Справа ў тым, што ўсё залежыць ад налётаў: больш гадзін у паветры – адпаведна вышэйшы заробак на зямлі. А ва ўрадавым атрадзе раз на раз не прыходзіўся: у нейкі месяц і па дзясятку вылетаў, а ў іншы – суцэльны прастой. На рэгулярных маршрутах магло быць і ўдвая больш, але ж справа ў статусе, і мы гэта цудоўна разумелі».

За пару гадоў пры штурвале Эдуард Сташкевіч зблізу разгледзеў усю партыйную эліту, уключаючы Першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава. Як адзначае суразмоўца, у адрозненне ад Аляксандра Лукашэнкі, той рэдка ўчыняў рэйды па кароўніках, перадаючы такое права тым, хто лепш за яго разбіраўся ў жывёлагадоўлі. Затое рэагаваў на нештатныя сітуацыі.

«Звычайна вясной моцна затоплівала Палессе, – згадвае ён. – Машэраў загадваў рыхтаваць борт, і мы ляцелі на поўдзень – маглі сесці ў Мазыры, Пінску, Брэсце, прычым як на цывільным, так і на ваенным лётнішчы. Там ён сустракаўся з чыноўнікамі, ратавальнікамі, потым дазапраўляліся і аглядалі тэрыторыю зверху, ацэньвалі маштаб сітуацыі. Я звычайна быў другім пілотам, таму да яго выходзіў, тлумачыў карціну, ён уважліва слухаў, цікавіўся меркаваннем».

Магчыма, менавіта тады Пётр Машэраў выношваў глабальны праект меліярацыі, які сёння яму ставяць ці не найбольшым папрокам. Як і «ўпарадкаванне» гістарычнага цэнтра Мінска.

### Спецборт базавай камплектацыі

Адсочвалі не толькі паводкі, інспектавалі гаспадаркі, працягвае Эдуард Сташкевіч. Ляцелі максімальна нізка, каб было рэальнае ўяўленне пра стан палеткаў. А на зямлі чыноўнік №1 клапаціўся, каб ягоныя пілоты мелі магчымасць нармальна адпачыць, знаходзіў час пагаварыць «за жыццё» – абедаў разам са старшынямі, спецыялістамі і лётчыкамі.



Былі і далёкія пералёты, якія ўваходзілі ў сферу саюзнай дзейнасці Першага сакратара ЦК Беларусі. Звышкамфорту на «элітным» борце не было – за выключэннем абсталяванага кутка, каб папрацаваць за сталом у дарозе. Плюс зменшаная колькасць месцаў – 13 замест 30. Астатняе – на ўзроўні базавай камплектацыі.

«Натуральна, Масква, Ленінград, а таксама Рыга, Кіеў, Данецк, Сочы, Крым – паветраныя калідоры больш як у 100 гарадоў. Дзе якія нарады, канферэнцыі, туды і ляцім. І вось так у агульнай колькасці шэсць гадоў. У мяне ўжо быў прыстойны налёт, мог пераходзіць на больш цяжкія самалёты. Але трымалі ва ўрадавым атрадзе – відаць, не хацелі без прычыны тасаваць кадры. Так і дапрацаваў да пенсіі. 45 гадоў, але па здароўі і выслузе ўжо хапала. А неўзабаве Пётр Міронавіч загінуў…»

Паводле слоў суразмоўцы, колькі гадоў ён меў зносіны з Машэравым, столькі захапляўся ягоным уменнем кантактаваць з людзьмі – не было спроб прадэманстраваць перавагу, «затаптаць» аўтарытэтам.

«Машэраў быў вельмі культурны, выхаваны, нездарма што настаўнік, – згадвае Эдуард Рыгоравіч. – Заўсёды павітаецца, запытае, як сям'я. Мы з боку часцяком назіралі – заўсёды так сябе паводзіў. Было ўражанне, што статус яго нават напружваў і ён намагаўся прыбраць дыстанцыю. Кінахроніку калі паказваюць, можна падумаць, што пастановачныя кадры. Але не, такі і быў: да ўсіх з павагай, ніякіх «тыканняў», хамства».

Пры гэтым былы авіятар так і не ўспомніў, каб Машэраў хоць калі-небудзь перайшоў на беларускую мову, – зрэшты, ва ўмовах тагачаснай русіфікацыі сітуацыя цалкам прадказальная.

### З фрэзероўшчыка ў планерысты

Эдуард Сташкевіч – карэнны мінчанін. Назадоўга перад Другой сусветнай вайной яго бацьку, ваеннага медыка, камандзіравалі ў Латвію. Адтуль сям'я трапіла ў эвакуацыю ў Татарстан. Тату дзеці больш не бачылі – ён і па сёння «зніклы без вестак». Пасля вызвалення Беларусі вярнуліся ў Мінск, Эдуард разам з малодшымі братам і сястрой пайшлі ў школу.



У 6-м класе, як старэйшы сын, пачаў шукаць працу – маці не магла нікуды ўладкавацца, не было за што жыць. Так у 15 гадоў стаў вучнем фрэзероўшчыка ў інструментальным цэху сталічнага радыёзавода. Раніцай працаваў, у другую змену вучыўся. Аднойчы ў калідоры пабачыў новенькі плакат: «Моладзь – на самалёты! Паступайце ў аэраклуб!». Быў 1947 год.

«Ну і пайшлі з сябрам па тым адрасе, – успамінае былы авіятар. – Праз недахоп адукацыі і гадоў запісалі ў групу планерыстаў. Зімой вывучалі рухавікі, самалёты, рыхтаваліся да парашутнай справы. А ўвесну нас грузавічком павезлі на аэрадром у Баравую. Пачаліся палёты на планёры. Яго чаплялі 100-метровым тросам за П-2, рабілі круг, інструктар вылічваў «кропку скіду» па ветры і хуткасці. Па камандзе трэба было выйсці на крыло, трымацца, каб не здзьмула. Ну і сігаеш уніз. Гэта было штосьці!»

Перамяжоўваючы тэорыю з практыкай, курсанты ўдасканальваліся надалей, а бліжэй да восені з усяго Саюза прыехалі рэкруцёры з вучылішч ваенна-транспартнай авіяцыі. Эдуард ужо захварэў небам і зазямляцца на фрэзероўшчыку не збіраўся.

«Напісаў заяву на звальненне. А начальнік цэха ўпёрся, хоць што рабі, – маўляў, толькі пачаў і куды раптам? Пакуль не патэлефанавалі з ваенкамата. Я ўжо не кажу пра маму, для яе ўдар быў яшчэ той: у 16 гадоў сабраўся невядома куды! І вось мы, тры курсанты-планерысты, атрымалі праязныя на дарогу, кішэнныя грошы і выправіліся праз Маскву, Саратаў у горад Пугачоў – там было вучылішча транспартна-дэсантнай авіяцыі, рыхтавалі камандзіраў экіпажаў. Я і сапраўды аказаўся самым малодшым».

### Транзітам праз Сахалін і Камчатку

Пасля вучылішча выпускнік Сташкевіч быў адкамандзіраваны на Далёкі Усход, базіраваўся ў Куйбышаўцы-Усходняй (пазней перайменавалі ў Белагорск). Неўзабаве дэсантныя планёры знялі з вытворчасці, перавялі на ваенна-транспартны Лі-2. Аблятаў Сахалін, Курылы і Сібір аж да мяжы з Карэяй і Кітаем. І пасля 10 гадоў бездакорнай службы зазбіраўся на радзіму.

«Я ажаніўся, – расказвае Эдуард Рыгоравіч, – нарадзіўся сынок Грыша. І надта пачаў хварэць, плакаў дзень і ноч. Медсанбат не дапамог, усё марна. Можа, не пасаваў клімат: вецер з мора, вільготнасць, туман. А тут якраз 1960 год, выходзіць загад Мікіты Хрушчова аб скарачэнні авіяцыйнага складу – праўда, у асноўным па хваробе і выслузе гадоў. А я ж малады. І ўсё роўна падаў рапарт. Перад тым двойчы ездзіў на адпачынак у Мінск, хадзіў у аэрапорт, цікавіўся вакансіямі. Паабяцалі, што возьмуць, – дэфіцыт кадраў».

Камандаванне ўзорнага супрацоўніка адпускаць не хацела. Толькі на трэці раз ягоная заява была задаволена – з захаваннем ільгот, вызначаных для афіцэрскага складу (у Мінску дзякуючы гэтаму атрымаў аднапакаёвую кватэру). А вось як дайшло да працы, аказалася, што вакансіі ў аэрапорце раптам скончыліся.

Зноў давялося ўспомніць пра кваліфікацыю фрэзероўшчыка, уладкаваўся на «рэжымны» 32-і завод. Пры гэтым не губляў надзеі, нагадваючы пра сябе аддзелу кадраў аэрапорта. І недарэмна: праз два гады прапанавалі павучыцца на дыспетчара службы руху самалётаў на лініях. Маўляў, зачапіся, можа, калі і ўзляціш. Наступныя шэсць месяцаў прайшлі ў вучэльні грамадзянскай авіяцыі ў Кіеве.

«Праца, як кажуць, не пыльная, але ўсё ж не маё. І калі паклікалі на «кукурузнік», радаваўся, як быццам гэта «Боінг», – смяецца Эдуард Сташкевіч. – Галоўнае – лётная работа. У абавязкі ўваходзіла апыленне палёў на Ан-2, камандзіроўкі і па месяцы, і больш. Агулам 4 гады адпрацаваў у сельгасатрадзе – трэба было набраць колькасць гадзін, каб перавесціся на больш цяжкую тэхніку. Потым быў пасажырскі Іл-14, а затым і ўрадавы Як-40».

Развітаўшыся ў 45 гадоў з авіяцыяй, Эдуард Рыгоравіч так і не здолеў прызвычаіцца да рытму зямнога існавання. За наступны час змяніў шэраг працоўных месцаў, але, як жартуе сам, большую частку дня пазіраў уверх. Туды, дзе засталіся кіламетры паветраных калідораў і гадзіны нябесных налётаў.

**Ігар КАРНЕЙ.**

РЭГІЁН

# У Віцебску адкрылі помнік Радзівону Басу

*Першы дырэктар Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар», заслужаны дзеяч культуры Беларусі, ганаровы грамадзянін Віцебска пайшоў з жыцця амаль два гады таму.*

Надмагільная скульптура складаецца з бюста і стэлы з васільком, аўтар помніка – Аляксандр Гвоздзікаў. Рашэнне аб стварэнні надмагільнага помніка першаму дырэктару «Славянскага базару ў Віцебску» было прынята Віцебскім гарвыканкамам яшчэ 1 жніўня мінулага года.

Помнік абышоўся ў суму каля 17.000 рублёў, грошы на яго збіралі ўсім горадам – быў адкрыты спецыяльны дабрачынны рахунак.

Радзівон Бас пакутаваў на цукровы дыябет, хвароба пачала прагрэсіраваць пасля яго звальнення з пасады дырэктара «Славянскага базару» ў 2013 годзе, у тым жа годзе прыйшлося ампутаваць нагу. Затым пачаў пагаршацца зрок, а ў 2017 годзе Бас пазбавіўся другой нагі.

Новы кіраўнік фестывалю «Славянскі базар у Віцебску» **Глеб Лапіцкі** ўсклаў кветкі да помніка Басу.

*«Паклон вам, Радзівон Міхайлавіч!* – гаворыць Глеб Лапіцкі. – *Чалавек – легенда! Чалавек – магніт! Чалавек – настаўнік! Ды і проста Чалавек з вялікай літары! Выказваю шчырую падзяку ўсім неабыякавым людзям, якія бралі ўдзел у рэалізацыі праекта. Гэта было вельмі сімвалічна, што ў Дзень горада прайшла цырымонія яго адкрыцця, бо Ганаровы грамадзянін горада Радзівон Бас сваёй творчасцю і сваіх калег зрабіў наш горад сапраўднай фестывальнай сталіцай! Памяць аб ім назаўсёды ў нашых сэрцах!»*

**Аліна ВЕТРАВА.**

ЗЕМЛЯКІ

# Марат Новікаў адзначыў залатое вяселле

*Вядомы бізнесмен, былы ўладальнік «Камунаркі» і «Спартака» ў нью-ёркскім рэстаране «Беларуская хатка» адзначыў 50-годдзе сумеснага жыцця.*

Нагадаем, што Новікаў з'ехаў з Беларусі ў 1989 годзе, жыве ў Нью-Ёрку, але адсочвае ўсе беларускія навіны. Пражыўшы ў Амерыцы шэсць гадоў, ён стаў грамадзянінам ЗША і атрымаў пашпарт. І дзеці, і ўнукі Новікава – таксама амерыканцы.

*«Цяпер радуюся, што дзякуючы сваёй жонцы зрабіў правільны крок і з'ехаў*, – дзяліўся Марат Міхайлавіч падрабязнасцямі асабістага жыцця з «Народнай Воляй». – *Менавіта жонка настаяла на гэтым пераездзе. Я яшчэ неяк вагаўся, таму што жыў быццам бы нядрэнна ў Беларусі, праца была цікавая. А жонка з'язджала ад Чарнобыля. Яе бацька быў вялікім начальнікам, ужо ў тыя часы ездзіў за мяжу. І яна па расказах бацькі ведала, як у Штатах жывуць людзі. Свабодна дыхаюць, вольна ходзяць, нікога не баяцца, ніхто ім не дыктуе сваю волю. Яна настаяла, і мы паехалі...»*

*«50 гадоў сумеснага жыцця – гэта тэрмін!* – гаворыць Вольга Новікава, дачка Марата Міхайлавіча. – *Мама і тата – гэта суперпара! Яны падобныя адзін на аднаго прыкладна гэтаксама, як агонь і вада, зіма і лета. Поўная супрацьлегласць! Мама заўсёды з намі, дзецьмі, разбіралася ціха і спакойна. Тата шумеў, крычаў і... псціў. Мама заўсёды была дома. Таты, наадварот, дома ніколі не было. Калі мы з братам прасілі ў мамы 10 долараў, яна давала 5 і казала, што больш няма. Тата заўсёды пытаўся, навошта так шмат, і даваў у два разы больш. Мама нас шкадавала, тата караў, але справядліва. Затое ў адносінах да ўнукаў у іх сапраўдная ідылія! На іх думку, нашы дзеці заўсёды галодныя, разбэшчаныя і мы не займаемся іх выхаваннем.*

*Вядома, у мамы з татам у жыцці здаралася рознае. Але яны здолелі захаваць і сям'ю, і дзіўны клопат адзін пра аднаго. Зараз яны клапоцяцца і пра нашы з Андрэем сем'і. Мне вельмі хочацца, каб яны яшчэ доўгія гады клапаціліся пра нас. Хай тата бурчыць і шуміць, а мама перажывае, што дзеці паміраюць ад голаду. А мы з Андрэем будзем ціха маліцца, каб яны былі здаровыя і даўжэй былі побач...»*

Юбілей сямейнага жыцця святкавалі ў беларускім рэстаране, які належыць Марату Новікаву. А запрошаным госцем быў скандальны расійскі спявак **Прохар Шаляпін.**




З АСАБІСТАЙ СПРАВЫ

Марат Новікаў нарадзіўся ў Мінску. У 1976 годзе скончыў Беларускі інстытут народнай гаспадаркі. Працаваў у ЦУМе, у сістэме «Інтурыста». У ЗША стаў віцэ-прэзідэнтам буйной фінансавай кампаніі Double Star International. Да 2012 года Марат Новікаў кантраляваў дзве найбуйнейшыя кандытарскія фабрыкі краіны. Затым здарылася незабыўная нацыяналізацыя «Спартака» і «Камунаркі». Новікаў стаў персонай нон-грата ў Беларусі.

**Вера ВІР.**

